


ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦК САЮЗА
ПАЧАТКОВЫХ
І СЯРЭДНІХ
ШКОЛ
БССР



КРАСАВІК
№ 4
1935



ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ



*С. Ліўшыц*

# Узмацніць рэвалюцыйную пільнасць

Нядаўна закончыўшыйся VII з'езд советаў падвёў ітог велізарнейшых поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Соцыялізм безраздзельна пануе ва ўсёй народнай гаспадарцы. Створана новая соцыялістычная індустрыя—база для поўнай тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Калгасны лад перамог у вёсцы, ліквідавана многаўкладнасць нашай народнай гаспадаркі. Разгром кулацтва канчаткова падарваў сілы капіталістычных элементаў. Наша краіна карэнным чынам перабудавалася ў сваёй соцыяльна-эканамічнай аснове, зрабілася краінай соцыялістычнай. Перамога соцыялізма ў нашай краіне стала магчыма таму, што не толькі рабочы клас, але і асноўная маса працоўнага сялянства сталі на бок соцыялізма. Гэтая перамога з'яўляецца вынікам ажыццяўлення генеральнай лініі партыі, на чале якой стаіць геніяльны правадыр пролетарыята—вялікі Сталін.

Разам з ростам гаспадарчай магутнасці краіны соцыялізма вырасла ў каласальнай ступені абараназдольнасць, якая з'яўляецца неабходнай умовай для далейшага разгортвання соцыялістычнага будаўніцтва. Перамога соцыялізма ў нашай краіне ў яшчэ большай меры ўзмацняе любоў і адданасць рэволюцыйнага міжнароднага пролетарыята і працоўных да Совецкага саюза—бацькаўшчыны працоўных усіх краін. «Поспехі пяцігодкі мабілізуюць рэволюцыйныя сілы рабочага класа ўсіх краін супроць капіталізма,—такі неаспарымы факт». (**Сталін** «Пыт. ленінізма», X выд. 1934 г., стар. 484.)

У святле сусветнай гістарычнай перамогі соцыялізма ў нашай краіне становяцца выключна грандыёзнымі магчымасці далейшага пад'ёму творчых сіл і энергіі пролетарыята і працоўных мас, вызваліўшыхся ад іга эксплаататараў.

«У совецкай дзяржаве рабочыя горада і працоўныя вёскі ўпершыню ў гісторыі зліліся ў адну сям'ю, у сям'ю будаўнікоў соцыялізма. У гэтым сіла совецкага ладу, аснованая на развіцці пролетарскай дэмакратыі. Гэты саюз рабочых і сялян, пад кіраўніцтвам нашай партыі, стаў увачавідкі тварыць цуды». (**Молатаў**, даклад аб змяненнях совецкай канстытуцыі.)

У совецкай дзяржаве ідзе далейшае развіццё пролетарскага дэмакратызма, у той час калі буржуазія рашуча знішчае «дэмакратычныя» прывескі, створаныя ёю ў «лепшыя гады» капіталізма, становячыся ўсё больш на шлях адкрытай фашысцкай дыктатуры.

Набліжэнне да заканчэння пабудовы соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне выклікае звярыную нянавісць і супраціўленне астаткаў разгромленых капіталістычных элементаў да дыктатуры пролетарыята. У злосці супроць партыі і совецкай улады класавы вораг канцэнтруе свае сілы і пускае ў ход усе сродкі барацьбы. Актам кандэнсаванай ня-

навісці з'яўляецца тэрарыстычная дзейнасць, якую ў кантакце з зарубежнай белагвардзейшчынай прымяняюць трацкісцка-зіноўеўскія контррэвалюцыйныя элементы. Афярай подлай помсты з боку ворагаў рабочага класа, ад рукі падонкаў былшай трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, загінуў бліжэйшы вучань і судзеяч т. Сталіна—т. Кіраў.

Чым больш мацнеюць сілы соцыялізма, тым больш усільваецца нянавісць контррэволюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх падонкаў, тым больш гнуснымі становяцца іх сродкі і метады барацьбы супроць партыі і совецкай улады. Прафесіяй, характэрнай рысай трацкістаў-зіноўеўцаў з'яўляецца двурушніцтва і вывёртлівасць, уменне лоўка прыкрываць свае контррэволюцыйныя справы клятвамі ў вернасці генеральнай лініі партыі.

Здраднікі выстрал у Ленінградзе, дзейнасць «Маскоўскага цэнтра» і «Ленінградскага цэнтра», асобныя контррэволюцыйныя праяўленні трацкісцка-зіноўеўскіх падонкаў паказалі, што наша рэволюцыйная пільнасць у радзе месц была недастатковай і што ўсіленне гэтай рэволюцыйнай пільнасці з'яўляецца зараз важнейшай задачай. Ва ўмовах БССР мы мелі цэлы рад фактаў праяўлення трацкісцкіх, нацдэмаўскіх і бундаўскіх элементаў. Факты наглых трацкісцкіх вылазак у медычным інстытуце, ВКСГШ, ваенным выдавецтве, вылазка Фліёра, Галенда і да т. п. прымушаюць узмацніць класавую рэволюцыйную пільнасць, накіраваць сакрушальны ўдар па кожнай вылазцы класавага ворага.

Адным з найбольш яскравых праяўленняў трацкісцкай контррэволюцыйнай двурушніцкай барацьбы супроць партыі і працягвання трацкісцкіх ідэй пад прыкрыццём агульных фраз аб «класавым ворагу» з'яўляецца дзейнасць Дунца ў галіне літаратуры. Гэтая дзейнасць надзвычай пладавіта. Дунец працуе на арэне крытыкі ў літаратуры не са ўчарашняга дня. Той факт, што да апошняга часу сапраўдная антыпартыйная сутнасць яго пісанняў не была выяўлена, гаворыць аб недастатковай класавай пільнасці з боку работнікаў крытыкі і літаратуры. Дунец меў магчымасць на працягу доўгага часу прыкрывацца маскай артадаксальнасці, выстаўляючы на паказ сваю непагрвшымасць, якую ён скарыстаў для прапаганды контррэволюцыйных ідэй, штампуючы ў якасці вышэйшых дасягненняў совецкай літаратуры наскрозь варожыя партыі і совецкай уладзе творы, напоўненыя контррэволюцыйным трацкісцкім зместам і тым не менш Дунец лічыўся аўтарытэтным совецкім крытыкам, стаяў даволі высока ў радзе работнікаў літаратурнага фронта. Гэта паказвае на ўмелую маскіроўку класавага ворага, на яго ўменне майстэрскі валодаць фразай і гэтым скрываць свой сапраўдны твар.

Характэрнымі з'яўляюцца адносіны Дунца да твора Обчука «Гіршул Шамай» (на яўрэйскай мове), які з'яўляецца злобным контррэволюцыйным выступленнем класавага ворага супроць соцыялістычнага будаўніцтва і наскрозь прасякнут трацкісцкімі шавіністычнымі бундаўскімі тэорыямі. Палітычнай слепатой і гніла-барскім лібералізмам многіх нашых крытыкаў тлумачыцца той факт, што гэтая кніга атрымала вядомасць як «вельмі станоўчая» з'ява ў галіне яўрэйскай совецкай літаратуры, як «правільнае» адлюстраванне працэса пераробкі людзей у горніле соцыялістычнага будаўніцтва.

Сапраўдны характар наглага паклёпу, якім прасякнута ўся гэтая кніга, быў у свой час паказан у артыкуле т. Ошэровіча яшчэ ў 1929 г. пад загалоўкам «Крывы твар у не менш крывым люстры». (Газета «Окцябр» 1929 г. № 170.) Але гэта не з'явілася перасцярогай для нашых крытыкаў. Іх цялячае захапленне гэтай кнігай было выкарыстана класавым ворагам. Дунец не скупіўся фразамі для таго каб гэты контррэволюцыйны трацкісцкі дакумент, імянуемы мастацкай літаратурай, паставіць зне кры-

тыкі. Вось, напрыклад, узор усхвалення Дунцом гэтага пасквіля на пралетарыят і яго комуністычную партыю:

«Ці пачалі нашыя пісьменнікі паказваць нашае соцыялістычнае будаўніцтва ў аспекце, неабходным на цяперашнім этапе? Я хачу паказаць, як на адзін такі пачатак, на кнігу Обчука «Гіршул Шамай». **Колькі-б недахопаў не знайшлі ў гэтай кнізе, нельга будзе ўсё-ж гэтым засланяць яе вялікае значэнне** (?!!) (гэта вельмі недастаткова папулярызавана— **зноў паказчык таго, наколькі адстае наша крытыка**)[1], якое заключаецца ў тым, што яна паказвае дыялектычны працэс таго, як прыходзіць у сутыкненне соцыялістычная тэхніка з кансерватыўнай абмежаванай прыродай адсталага пролетарыя, як гэтая адсталасць перамагаецца, як новая тэхніка рэканструіруе мазгі Шамаяў, як рэканструкцыйны перыяд урываецца ў самае кансерватыўнае замкнутае патрыярхальнае асяроддзе і яго праветрывае, перарабляе яго на здаровай аснове (я тут маю на ўвазе і новыя главы другой часткі «Шамай», якую т. Обчук здаў у часопіс «Штэрн»). **У гэтым сакрэт той зацікаўленасці, якая выклікаецца кнігай «Шамай» у чытача. Зразумела, кніга Обчука дае першы этап першай пяцігодкі, у ёй няма пафаса асваення, але ў ёй ёсць рад элементаў таго, што павінна цяпер стаць вядучай праблемай нашай літаратуры—калі літаратура хоча сапраўды ісці ў ногу з усім будаўніцтвам і служыць генеральнай лініі партыі»[1]**. (Дунец «Літаратурныя тэмы», стар. 47 і 48).

Такім чынам, кніга Обчука «Шамай» папулярызуецца Дунцом як твор советскай літаратуры, які «ідзе ў ногу з усім будаўніцтвам і служыць генеральнай лініі партыі». Дунец не толькі не ўскрывае трацкісцкай сутнасці гэтай кнігі, але рэкамендуе яе ў якасці ўзора для ўсёй яўрэйскай советскай літаратуры. Разам з тым Дунец зараней перасякае ўсякую крытыку, накіраваную супроць гэтай кнігі. Апалагетычныя імкненні Дунца відавочны.

Мы бачым як р'яна абараняе Дунец гэты твор і яго аўтара. Паглядзім, што прадстаўляе сабою гэта кніга. Галоўнай дзеючай асобай твора з'яўляецца адсталы рабочы-кадравік (Шамай), маючы 30-гадовы рабочы стаж, вобраз якога відавочна павінен адлюстраваць, па думцы аўтара, характэрныя рысы радавой пролетарскай масы. Аўтар выводзіць галоўнага героя як ярага трацкіста, сцвярджаючы тым самым, што соцыяльнай апорай трацкізма з'яўляюцца старыя кадравыя рабочыя. Гэтым-жа аўтар імкнецца скрыць контррэволюцыйны буржуазны характар трацкізма.

У гэтай кнізе словамі галоўнай дзеючай асобы аўтар выказвае антысовецкую трацкісцкую і шавіністычную прапаганду, ідэалізуючы пры гэтым фігуру трацкіста, размалёўваючы яго «вялікадушнасць» і «шчырасць», жадаючы гэтым прыдаць словам свайго героя яшчэ большую пераканальнасць. Да гэтага ўсяго, у кнізе працягваецца шкоднейшая ідэя аб перавыхаванні контррэволюцыйных трацкісцкіх элементаў, прапаведуецца ў адносінах да іх хрысціянскае смірэнне і доўгацярпенне.

Побач з ідэалізацыяй контррэволюцыйнага трацкізма ў кнізе мае месца прапаганда контррэволюцыйнага шавіністычнага бундызма. У ёй праводзіцца лінія апраўдання бундызма, узвелічэнне яго нібыта рэволюцыйнага мінулага. Характэрна сцэнка, якую мы сустракаем у кнізе Обчука. Стары кажа: «Тав. Балан, а я думаў, што вы ўжо зусім развучыліся гаварыць на яўрэйскай мове... вы мабыць, былі бундаўцам?». Малады хлапец адказвае: **Быў, быў, як-жа! Але тады Бунд быў яшчэ рэволюцыйнай партыяй»** (?...)[1] Гэты-ж Балан выхадзец Бунда і захаваўшы (як гэта відаць) да гэтага часу бундаўскія традыцыі, характарызуюцца аўтарам і Дунцом як **«цікавейшая і яскрава вызначаная фігура»**[1].

---

1) Падкрэслена намі, *С. Л.*

Прыведзенага дастаткова для таго, каб саставіць сабе поўнае ўяўленне аб сапраўдным твары аўтара кнігі «Шамай» і яе галоўным героі. Гэта твар злобствуючага контррэволюцыянера і гэтую кнігу Дунец рэкамендуе як паказчык поспехаў соцыялістычнай літаратуры. Ці не ясна пасля гэтага, што паміж контррэволюцыйным пасквілянтам, абараняемым Дунцом, і самім Дунцом няма ніякай розніцы.

Другім фактам, праліваючым святло на сапраўдны твар Дунца, з'яўляецца рэдактаванне ім трацкісцкай кнігі Юдэльсона «Грэнецн» («Граніцы») на яўрэйскай мове.

Аўтар гэтай кнігі з выключнай нагласцю робіць паклёпніцкія заявы на партыю і яе любімага правадыра т. Сталіна. Манеўр, якім карыстаецца аўтар гэтай кнігі, заключаецца ў тым, што характар і пачуцці вывадзімага героя-трацкіста рысуюцца так, каб унушыць чытачу сімпатыю да контррэволюцыянера-трацкіста, пашану да яго мінулага. Аўтар падкрэслівае «шчырасць» свайго героя, скрывае факт двурушніцтва, якое з'яўляецца характэрнай рысай контррэволюцыйнага трацкізма ў яго барацьбе супроць партыі. Якраз гэтае падкрэсліванне аўтарам, нібыта асаблівай «шчырасці» і «адданасці» свайго героя з'яўляецца прыёмам аўтара завуаліраваць контррэволюцыйную трацкісцкую кантрабанду. Аўтар кнігі «Грэнецн» прыкрывае свайго героя-трацкіста флагам рэволюцыйнай рамантыкі, жадаючы стварыць перакананне ў асобых рэволюцыйных заслугах трацкістаў, прапаведуючы контррэволюцыйны трацкізм.

Такім чынам, па думцы Юдэльсона, трацкіст не з'яўляецца класавым ворагам-контррэволюцыянерам, ён з'яўляецца з яго пункту погляду пламенным рэволюцыянерам. Ён толькі «чутка перажывае» труднасці соцыялістычнага будаўніцтва, няўхільна ўзнікаючыя на шляху будаўніцтва бясклaсавага соцыялістычнага грамадства.

Ідэалізацыя контррэволюцыйнага трацкізма з'яўляецца адным з улюбёных прыёмаў трацкісцкай кантрабанды. Не першы раз контррэволюцыянеры-трацкісты выступаюць з імкненнем фальсіфікаваць гісторыю рэволюцыйнай барацьбы, ствараючы вакол трацкізма арэол нібыта рэволюцыйнай рамантыкі. Герой кнігі Яша Гурвіч пападае з заграніцы ў СССР, з'яўляючыся трацкістам. Вобраз заядлага трацкіста Яшы Гурвіча павінен, відавочна, па думцы аўтара, адлюстроўваць настроі заходне-еўрапейскага пролетарыята. Юдэльсон, такім чынам, выступае з паклёпам на сусветны пролетарыят, характарызуючы яго настрой да Совецкага саюза ў духу контррэволюцыйнага трацкізма.

Перамогі растучага соцыялізма ў нашай краіне з кожным днём яшчэ больш узмацняюць у міжнародным пролетарыяце сазнанне таго, што толькі Совецкі саюз з'яўляецца іх адзінай і сапраўднай бацькаўшчынай. «Рабочы клас СССР ёсць частка сусветнага пролетарыята, яго перадавы атрад, а нашая рэспубліка—дзецішча сусветнага пролетарыята. Не можа быць сумнення, што калі-б не было ў яго падтрымкі з боку рабочага класа капіталістычных краін, ён не ўтрымаў-бы ўлады ў сваіх руках, ён не забяспечыў-бы ўмоў для соцыялістычнага будаўніцтва,—стала быць у яго не было-б тых поспехаў, якія ён мае цяпер. Інтэрнацыянальныя сувязі рабочага класа СССР з рабочымі капіталістычных краін, брацкі саюз рабочых СССР з рабочымі ўсіх краін,—вось адзін з краевугольных каменняў сілы і магутнасці Рэспублікі советаў. Рабочыя на Захадзе кажуць, што рабочы клас СССР з'яўляецца ўдарнай брыгадай сусветнага пролетарыята». (**Сталін,** Пыт. ленінізма, X выд., стар. 537—538.) Прыязджаючыя да нас шматлікія рабочыя дэлегацыі, якія з'яўляюцца сведкамі поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва, расказваюць пасля ўшым іх рабочым масам аб грандыёзнасці перамог соцыялізма ў нашай

краіне. І не толькі прыяцелі СССР, але і ворагі яго вымушаны прызнаць факт сусветна-гістарычных поспехаў перамогі соцыялізма ў нашай краіне. Трэба быць заядлым контррэволюцянерам-троцкістам для таго, каб узводзіць такі паклёп адначасова на Совецкі саюз і сусветны пролетарыят, як гэта робіць Юдэльсон.

Паклёп троцкіста Юдэльсона па адрасу соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны ідзе па лініі асноўнага троцкісцкага тэзіса, які адмаўляе магчымасць будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне і абвінавачвае пролетарыят Совецкага саюза і яго вялікую партыю з яе геніяльнейшым правадыром т. Сталіным у нацыянальнай абмежаванасці. Гэты «аргумент», не першай свежасці, выцягваецца Юдэльсонам з троцкісцкага арсенала і пускаецца ў ход для таго, каб адмаўляць соцыялістычны характар усяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва, каб атажсамляць нашыя паслядоўна соцыялістычныя прадпрыемствы з прадпрыемствамі капіталістычнымі. Троцкіст злосна адмаўляе неперарыўную сувязь соцыялістычнага будаўніцтва з сусветным пролетарыятам, з міжнароднай пролетарскай рэволюцыяй, ён адмаўляе той энтузіязм соцыялістычнай працы, якая з'яўляецца сапраўднай рухаючай сілай мільённых мас пролетарыята і працоўных у іх барацьбе за соцыялізм. Ён сумняваецца, што пролетарыят нашай краіны можа зразумець сэнс адбываючагася на яго вачах гістарычнага павароту. Ён гаворыць: «Фронты даўно пагаслі і даўно забыт ужо вораг». Юдэльсон не дапускае магчымасці энтузіязма ў нашага пролетарыята. Раз грамадзянская вайна скончылася, ён лічыць натуральным, што вораг забыт, рэволюцыйная энергія мас павінна пагаснуць. Разам з усімі заядлымі ворагамі соцыялізма гнусны троцкіст Юдэльсон лічыць, што гаспадарчыя дасягненні нашай краіны не з'яўляюцца вынікам рэволюцыйнага пад'ёму працоўных нашай краіны. Ён узводзіць наглы паклёп на пролетарыяў нашай краіны, абвінавачваючы іх у неразуменні сутнасці соцыялістычнага будаўніцтва, адмаўляючы той факт, што гэтыя гіганцкія поспехі ў соцыялістычным будаўніцтве з'яўляюцца вынікам соцыялістычных адносін да працы ў нашай краіне. Ён адмаўляе, што праца ў нашай краіне ператварылася, па выражэнню т. Сталіна, «з зазорнага і цяжкага брэмені, якой яна лічылася раней, у справу чэсці, у справу славы, у справу доблесці і геройства» (**Сталін,** «Пыт. ленінізма», X выд., стар. 353.) Юдэльсон вуснамі свайго героя адкідвае пафас «рэкорда кладкі цэглы, сабекошт, проценты...». Троцкіст паўстае супроць нашай нібыта празаічнай рэчаіснасці. Прыкрываючыся ілжыва рамантычнай фразеалогіяй, ён вядзе сваю падрыўную работу класавага ворага.

У творы Юдэльсона троцкіст атрымлівае шырокую трыбуну для сваёй прапаганды. Аўтар нібы адыходзіць, даючы свайму герою поўны простор для пропаведзі контррэволюцыйнай ілжы і паклёпу. «Троцкізм,—гаворыць т. Сталін,—ёсць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі». З троцкістам, класавым ворагам, мы не павінны дыскусіраваць. «Нельга дапускаць,—кажа т. Сталін,—літаратурную дыскусію з троцкісцкімі кантрабандыстамі». Усякая такая дыскусія толькі на руку класаваму ворагу. Юдэльсон у форме дыскусіі троцкіста вышаў на шлях пропаведзі контррэволюцыйных буржуазных ідэй.

Не прыходзіцца гаварыць аб недапушчальнасці падобных «мастацкіх твораў». Гаворачы аб класавым ворагу ў мастацкім творы, неабходна ўскрываць усю агіднасць і нізасць ворага, паказваць трыжды агідны здрадніцкі твар. Усякае-ж любаванне нібыта чуткімі перажываннямі троцкіста— ёсць, па сутнасці, абарона гэтага класавага ворага.

Нагласць контррэволюцыйнага троцкіста не ведае межаў. Ён даходзіць да таго, што зачыншчыка тэрарыстычных актаў супроць правадыроў

нашай партыі, двурушніка Зіноўева, ставіць у адзін рад з правадырамі сусветнага пролетарыята—Леніным і Сталіным. Яго герой рыхтуецца к дакладу на агульным сходзе, збіраючыся пацвердзіць свой трацкісцкі паклёп цытатамі з «Леніна, Зіноўева і Сталіна»:

„Цэлы тыдзень Яша рыхтуецца к сходу,
Ён пераліствае Леніна, Зіноўева і Сталіна.
Ён ужо мае тут поўны камплект запісак,
Ён ужо можа цытатамі ўсіх заваліць".

Соцыялістычнае будаўніцтва, якое пераможна ажыццяўляецца пролетарыятам нашай краіны, расцэньваецца трацкістам як акт здрадніцтва сусветнаму пролетарыяту:

Тут усім сталі чужды
І ўдаліліся.
Не бачаць, як вядзе барацьбу
Сусветны пролетарыят.

Тут трацкіст разышоўся ва ўсю; ён адкрыта абвінавачвае пролетарыят і яго партыю ў тым, што яны забылі сусветны пролетарыят.

Кніга Юдэльсона (як і твор «Шамай» Обчука) стварае пераконанне, быццам соцыяльнай базай трацкізма з'яўляецца рабочы клас. Гэта служыць у руках трацкіста сродкам для двурушніцкага затушоўвання контррэволюцыйнага характару трацкізма.

Адным з любімых прыёмаў барацьбы трацкістаў з партыяй з'яўляецца проціпастаўленне моладзі старой гвардыі. Трацкізм любіць падладжвацца да моладзі, імкнецца ўбіць клін паміж маладняком і старымі партыйнымі кадрамі. Будучы разбітым партыяй і страціўшы апору ў рабочым класе, і наогул сярод працоўных, трацкізм робіць стаўку на моладзь, скарыстоўваючы пры гэтым дэмагагічныя лозунгі аб моладзі як аб барометры рэволюцыі. Юдэльсон рысуе комсамольскую брыгаду, якая адна выводзіць прадпрыемства з прарыва, у той час, як партарганізацыя занята паседжаннямі і дыскусіямі аб ліквідацыі прарыва. Комсамольскую арганізацыю ён проціпастаўляе партыі, становячыся на шлях комсамольскага авангардызма. Як-жа рэагуюць у кнізе Юдэльсона другія яго героі на трацкісцкія выступленні галоўнага героя? Аказваецца, што трацкіст усюды знаходзіць водклік. Яша Гурвіч перапісваецца з дзяўчынай-комуністкай, якая сядзіць у польскай турме за рэволюцыйную работу. Ці сустракае адпор трацкіст Гурвіч з боку гэтай адданай комуністкі, якой, па думцы аўтара, яна з'яўляецца? Не, замест адпору мы тут знаходзім сентыментальныя ўгаварванні, прымірэнцтва, антыпартыйныя пазіцыі.

А вось другі «герой» Юдэльсона, сакратар парткома Ібраімаў, які аказваецца сам з трацкісцкім прошлым і «крытыкуе» трацкізм Гурвіча з праваапартуністычных пазіцый. Пры гэтым Ібраімаў у сваю чаргу акутваецца аўтарам рамантыкай, за ім налічваецца шмат заслуг грамадзянскай вайны. Як бачым, у Юдэльсона, што ні трацкіст (ці праваапартуніст), то абавязкова герой грамадзянскай вайны. Гэта не выпадковасць, гэта сістэматычна прымяняемы метад ідэалізацыі трацкізма. Да таго-ж не выпадкова і тое, што па Юдэльсону сакратар парткома, які павінен выражаць сабой процістаўленне трацкізму і такім чынам прадстаўляць лінію партыі ў цэлым (у параўнанні з трацкістам Гурвічам), сам аказваецца на праваапартуністычных пазіцыях. Па сутнасці, тут мы маем справу з паклёпніцкімі трацкісцкімі абвінавачваннямі партыі ў правым апартунізме.

Юдэльсон разам з рэдактарам «Гренецн» Дунцом адмаўляе соцыялістычнае будаўніцтва ў Совецкім саюзе. Ён ставіць знак роўнасці паміж соцыялістычнымі прадпрыемствамі і заводамі Шкода і Крэза. Юдэльсон адзін сэнс соцыялістычнай індустрыялізацыі бачыць у падрыхтоўцы базы для вайны. Ён бачыць адзін і той-жа працэс у нас і ў капіталістычных краінах—усюды падрыхтоўка да вайны. Ён фактычна абвінавачвае пролетарскую дзяржаву ў «чырвоным імперыялізме». І з пункту гледжання Яшы Гурвіча (за якім скрываецца Юдэльсон, а разам з ім і Дунец) палітыка міру, якая настойліва праводзіцца нашай дзяржавай, ідзе ў разрэз з інтарэсамі сусветнага пролетарыята.

Такім чынам, Юдэльсон разам з Дунцом узводзяць паклёп у сваёй махрава-контррэволюцыйнай кнізе на пролетарыят і яго партыю, абвінавачваючы апошнюю ў здрадніцтве інтарэсам сусветнага пролетарыята, распаўсюджваючы антысовецкую легенду аб нацыянальнай абмежаванасці пролетарыята і працоўных нашай краіны, адмаўляючы будаўніцтва соцыялізма нашай краіны, атажсамляючы паслядоўна соцыялістычныя прадпрыемствы з капіталістычнымі прадпрыемствамі, процістаўляючы партыйную моладзь старым кадрам нашай партыі, характарызуючы настрой пролетарыята капіталістычных краін у духу трацкізма, ідэалізуючы трацкізм, акружаючы яго арэолам рэволюцыйнай рамантыкі. Мы тут знаходзім усе колеры трацкісцкага спектра. Перад намі, несумненна, яскрава выражаны контррэволюцыйны трацкісцкі дакумент, і ролю ярага абаронцы гэтага дакумента прыняў на сябе Дунец. Карыстаючыся сваім аўтарытэтам «артадаксальнага» крытыка, Дунец выступаў неаднаразова ў абарону твораў Юдэльсона. Дунец, такім чынам, актыўна садзейнічаў распаўсюджанню трацкісцкай кантрабанды. Фактычна ён сам раздзяляе ўсю суму трацкісцкіх поглядаў, выказаных у творы Юдэльсона «Грэнецн», актыўна прапаведуе гэтыя погляды, насаджваючы контррэволюцыйныя трацкісцкія ідэі. Важна падкрэсліць, што нават пасля злачынскага забойства т. Кірава падонкамі былой трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, калі асабліва ясна стала неабходнасць яшчэ большага павышэння класавай пільнасці і непрымірымасці да класавага ворага, да трацкістаў-кантрабандыстаў. Дунец, выступаючы на пленуме Саюза совецкіх пісьменнікаў, дзе абгаварваўся даклад Курлянда аб кнізе Юдэльсона, не толькі не выкрыў контррэволюцыйны характар гэтай кнігі, але яшчэ раз стаў на яе абарону ад слабай, бяззубай «крытыкі» Курлянда.

Характэрным момантам для Дунца з'яўляецца яго фактычнае пакравіцельства Дрэйзіну. Хто такі Дрэйзін? На гэтае пытанне не цяжка даць адказ усякаму, хто хоць крыху сачыў за барацьбой партыі супроць контррэволюцыйнага беларускага нацдэмакратызма. І Дрэйзін не з'яўляецца выпадковай фігурай сярод беларускіх нацдэмакратаў.

Дрэйзін у якасці ўчастка сваёй шкоднай для партыі шавіністычнай дзейнасці выбраў галіну музыкі. Яго неаднократна выкрывалі ў працягванні нацдэмаўскіх ідэй. Але кожны раз яму ўдавалася выкручвацца, не без дапамогі «высокага» пакравіцеля Дунца, узглаўляўшага гэты ўчастак мастацтва. Аб сапраўдным характары Дрэйзіна можна меркаваць па артыкулу, змешчанаму ім у часопісе «Совецкая музыка», № 7 (Орган Саюза совецкіх кампазітараў) пад назвай «Музыкальнае жыццё Беларусі» [1]. У гэтым артыкуле аўтар ніводным словам не агаварыўся, што дасягненні БССР на фронце музыкі з'яўляюцца рэзультатам барацьбы за генеральную лінію партыі, рэзультатам росквіту, соцыялістычнай культуры БССР, рэзультатам барацьбы за ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку.

[1] Паміж іншым такія-ж нацыянал-дэмакратычныя контррэволюцыйныя артыкулы Дрэйзіна друкаваліся і ў газеце „Літаратура і Мастацтва“, рэдактарам якой быў Дунец.

Ён знаходзіў магчымым цалкам замоўчваць ролю КП(б)Б у справе разгортвання савецкай музыкі. Дрэйзін скрывае факт абвастрэння барацьбы з контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам, з рознага роду шавінізмам і контррэвалюцыйным трацкізмам, з правым апартунізмам. Наогул, Дрэйзін абыходзіць маўчаннем факт класавай барацьбы на фронце музыкі, ён свядома ўхіляецца ад палітычнай характарыстыкі нацдэмакратызма, затушоўвае яго ролю ў якасці агентуры польскага фашызма. З пункту гледжання Дрэйзіна, контррэвалюцыйныя фашысцкія інтэрвенты Рак-Міхайлоўскі, М. Гарэцкі, Прохараў і іншыя адыгрываюць пачэсную ролю ў гісторыі беларускай музыкі. Прадстаўляючы сабой яскравы ўзор нацдэмакратычнай кантрабанды, гэты артыкул Дрэйзіна зусім нічога не кажа аб развіцці ў БССР яўрэйскай, польскай, рускай музыкі, адрываючы беларускую музыку ад музыкі народаў усяго Савецкага саюза. У артыкуле нічога не гаворыцца аб той гіганцкай дапамозе з боку Савецкага саюза, якая з'явілася і з'яўляецца неабходнай умовай росквіту ў БССР нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры. Дрэйзін гаворыць аб развіцці музыкі ў Заходняй Беларусі ў той час, калі нацыянальна-вызваленчы рух беларусоў падаўляецца польскім фашызмам. Там не можа быць і гутаркі аб развіцці беларускай нацыянальнай культуры наогул і музыкі ў прыватнасці.

З сказанага відаць, што прадстаўляў сабой Дрэйзін. Гэта—класавы вораг, які прабраўся на адказны ўчастак нашага культурнага фронта (у беларускую дзяржаўную кансерваторыю), дзе і праводзіў актыўную контррэвалюцыйную нацдэмаўскую работу.

Контррэвалюцыйная работа Дрэйзіна праходзіла на вачах у Дунца. Пад выглядам крытыкі Дунец пісаў пасля кожнага выкрыцця Дрэйзіна грамавыя артыкулы, адначасова з гэтым аказваючы апошняму падтрымку. Пасля грозных артыкулаў Дунца, Дрэйзін выходзіў сухім з вады, аказваючыся на яшчэ больш адказнай рабоце ў галіне мастацтва.

Мы разабралі рад фактаў дзейнасці Дунца на ідэалагічным фронце. Дунец, хацеў ён таго ці не, фактычна стаў прапагандыстам контррэвалюцыйнага трацкізма, прыкрываючыся пры гэтым маркай артадокса. Сапраўдны характар дзейнасці Дунца выявіўся дзякуючы яго наглай вылазцы ў НКА. Карыстаючыся сваім аўтарытэтам намесніка наркома асветы, Дунец пазваніў начальніку бібліятэчнага ўпраўлення т. Багуслаўскаму, часова выконваючаму абавязкі сакратара парткома, і прапанаваў зняць сцянную газету, прысвечаную памяці т. Кірава, нібыта знайшоўшы ў ёй «буйныя палітычныя памылкі». Намеснік рэдактара т. Казлоў зняў сцянную газету і вось над ёю ў габінеце намесніка наркома—т. Дунца праводзіцца экзекуцыя. З перадавога артыкула «Вышэй класавую пільнасць», аб якой у пастанове парткома гаворыцца як аб «бальшэвіцкі правільнай і мабілізуючай». Дунец у прысутнасці Багуслаўскага выкрэслівае самыя вострыя, мабілізуючыя месцы, накіраваныя супроць трацкісцка-зіноўеўскіх падонкаў. З перадавога артыкула сценгазеты выкрэсліваюцца такія месцы, як «да пераклічкі (зіноўецаў) з агалцелымі дыверсантамі з белагвардзейскіх лагераў і фашыстамі», што «агентура класавага ворага падчас пралазіць у нашы рады» і нарэшце выкрэсліваецца заключны абзац «яшчэ і яшчэ больш павысім класавую пільнасць». Дунец, аказваецца, нязгодзен з тым, што Зіноўеў і К° пераклікаліся з агалцелымі дыверсантамі з белагвардзейскіх лагераў і з фашыстамі. Дунец не згодзен з тым, што агентура класавага ворага часам пралазіць у нашыя рады, не згодзен і з тым, што трэба яшчэ і яшчэ больш павысіць класавую рэвалюцыйную пільнасць. Артыкул пасля «апрацоўкі» Дунцом аказаўся палітычна выхалашчаным, адводзячым удар ад зіноўеўска-трацкісцкіх падонкаў, змазваючы астрату барацьбы партыі з імі. Уся гэтая аперацыя праводзілася

пад выглядам выпраўлення дапушчаных рэдакцыяй памылак. У трацкісцкім запале Дунец самачынна прысвойвае сабе права рэдактара, не лічачыся з элементарнымі правіламі большэвіцкага друку і ўнутрыпартыйнай дэмакратыі.

Антыпартыйныя выступленні Дунца ўсугубляюцца яшчэ і тым, што ён не толькі не выкрыў сябе перад партыйнай арганізацыяй, але стараўся двурушніцкі выйсці з гэтага становішча. Уся антыпартыйная дзейнасць Дунца з'явілася вынікам нязжытага буржуазна-нацыяналістычнага мінулага (сямігадовае знаходжанне яго ў партыі СС—сіяністаў соцыялістаў), вынікам пагардлівых адносін да марксісцка-ленінскай вучобы. Антыпартыйнай дзейнасці спрыялі таксама такія моманты, як стварэнне групаўшчыны сярод асобных яўрэйскіх пісьменнікаў (Харык, Браншттэйн), зажым самакрытыкі і інш. Не прызнаючы палітычнай сутнасці зробленага ім замаху на большэвіцкі друк, ён змазваў прынцыповы характар сваёй віны, адводзячы ўвагу ў бок не так істотных момантаў (зазнайства і да т. п.). Гэта выключная па сваёй нагласці выхадка трацкіста лішні раз сведчыць аб неабходнасці яшчэ большай настарожанасці да самых нязначных праяўленняў класава-варожых трацкісцкіх элементаў. Трацкісцкая вылазка Дунца яшчэ раз гаворыць аб нашай недастатковай рэвалюцыйнай пільнасці, аб частым самаўспакаенні, аб недастатковым вывучэнні і праверцы людзей. Партыйная і прафесійная арганізацыя НКА павінна з гэтага зрабіць рад вывадаў з тым, каб апарат НКА быў-бы сапраўды большэвіцкім апаратам, актыўна і аддана змагаючыся за лінію партыі ў галіне народнай асветы супроць усіх скажэнняў ленінска-сталінскай лініі.

Ва ўмовах НКА факт трацкісцкай вылазкі Дунца не з'яўляецца адзіным. Мы мелі трацкісцкія выступленні на гуртку ленінізма з боку члена партыі Вярбіцкага (інспектара аддзела забеспячэння), які партарганізацыяй выключан з партыі.

Вярбіцкі выступіў з заяўленнямі, што Троцкі не быў паслядоўным большэвіком (усяго толькі?), што ён ніколі паслядоўна не ішоў за партыяй. Выступленне Вярбіцкага з'яўляецца адмаўленнем контррэволюцыйнай сутнасці трацкізма. Той-жа Вярбіцкі пры абгаварэнні на партсходзе пастановы гаркома партыі па справе трацкіста Рудога (выкладчык гісторыі партыі ў КІЖ'ы), выключанага з партыі, не агаварыўся ніводным словам не гледзячы на тое, што з'яўляўся яго слухачом і ведаў аб фактах працягвання трацкізма на лекцыях т. Рудым.

Мы бачылі на прыведзеных фактах як агенты класавага ворага працягваюць трацкісцкую прапаганду ва ўмовах НКА.

Бязлітасны адпор, аказваемы партыяй, пад кіраўніцтвам геніяльнага правадыра сусветнага пролетарыята, усякага роду вылазкам класавага ворага наносіць сакрушальны ўдар па наглеючых астатках. Неабходна памятаць указанні т. Сталіна аб тым, што рост магутнасці нашай пролетарскай дзяржавы выкліча яшчэ больш яраснае супраціўленне з боку класавага ворага, аб неабходнасці яшчэ больш усіліць класавую пільнасць. «Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады. Няма такой агіднасці і паклёпу, якіх-бы гэтыя быўшыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якіх не папрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і зашавяліцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый: эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць

і зашавяліцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зразумела, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асобых афяр.

Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам». (Сталін, «Пытанні ленінізма», X выд., стар. 510.)

Цэлы рад фактаў класава-варожых выступленняў трацкісцка-зіноўеўскіх падонкаў, выступленняў нацдэмаўскага парадку, меўшых месца за апошні час на культурным фронце БССР, з усёй відавочнасцю сведчаць аб тым, што рад работнікаў, кіраўнікоў асобных участкаў культурнага будаўніцтва не зрабілі для сябе неабходных палітычных вывадаў з падзей, меўшых месца ў нашай краіне пасля забойства С. М. Кірава.

У радзе месц яшчэ і на сёнешні дзень пануе абывательскае благадушша, прымірэнцкія адносіны да класавага ворага; няма належнай большэвіцкай пільнасці ў падборы кадраў, зусім недастаткова разгорнута масава-палітычная і выхаваўчая работа сярод моладзі, недастаткова вядзецца барацьба супроць працягвання ў яе асяроддзе антыпролетарскай ідэалогіі.

Усякага роду ворагі партыі, контррэволюцыйныя трацкісты, зіноўеўцы, усякага роду апартуністы, нацыянал-дэмакраты робяць цяпер стаўку на моладзь, выкарыстоўваючы школьныя аўдыторыі, тэхнікумы, ВНУ, бібліятэкі для працягвання зіноўеўска-трацкісцкіх і буржуазна-нацыяналістычных і контррэволюцыйных ідэй. Аб гэтым сведчыць рад класава-варожых контррэволюцыйных вылазак сярод студэнтаў. Гэтыя класава-варожыя выступленні часта не сустракаюць дастаткова рашучага адпору. Дзе-ні-дзе класавы вораг акапаўся ў культурных установах і вядзе падрыўную антысовецкую работу, астаючыся доўга незаўважаным.

Вось некалькі прыкладаў:

Настаўнік Смалявіцкага раёна Драздоўскі, быўшы кулак, сістэматычна біў дзяцей. Факты біцця былі ўскрыты з вялікім спазненнем. Аналагічныя факты мелі месца ў Шацкай НСШ (настаўніца Грынёва), Борскай НСШ (настаўнік Васіленка) і ў некаторых іншых школах. Настаўнік Хойніцкай польскай школы Дрота садзейнічаў антысеміцкім праяўленням сярод некаторых вучняў. Аналагічная з'ява мела месца і ў 6 класе гэтай-жа школы ў настаўніцы Карповіч, якая не праявіла дастатковай рашучасці ў барацьбе з антысемітызмам. Настаўнік Аўчыннікаў і настаўніца Ярошаўскай школы Баркова яшчэ не вызваліліся цалкам і поўнасцю ад рэлігійнага дурману. Настаўнік Прызма, Пятровіцкай школы, Смалявіцкага раёна, так растлумачвае вучням як дабіцца заможнага жыцця калгаснікаў: «Заможным калгаснік будзе тады, калі ён зніме добрыя плады з свайго саду». Настаўнік Сутачскай школы таго-ж раёна Сімановіч заяўляе, што комуністычнае выхаванне можа праводзіць толькі на пэўнай ступені развіцця вучняў (ён мае на ўвазе старэйшыя класы і адмаўляе комуністычнае выхаванне ў малодшых класах).

У радзе школ маюць месца надзвычай грубыя, зусім бястактныя адносіны настаўнікаў да дзяцей, несур'ёзныя адносіны да работы. Разам з тым у радзе месц выяўлена нізкая палітычная граматнасць некаторых настаўнікаў. Нячоткасці асобных фармулёвак часта мяжуюць з прамым скажэннем і класава-варожымі ўстаноўкамі.

Але гэтыя факты не могуць засланіць тых вялікіх поспехаў, якіх дабілася школа ў справе падняцця якасці вучэбна-выхаваўчай работы і гэтыя нашыя поспехі растуць з кожным днём. Мы маем рад школ, якія па-большэвіцку змагаюцца за сапраўднае комуністычнае выхаванне дзяцей, за поўную канчатковую ліквідацыю «карэннага недахопу», за са-

праўдную рэалізацыю дырэктыў партыі і ўрада аб школе. Такіх школ ужо не мала, вось прыклады:

Старасельская НСШ, Віцебскага раёна, дырэктар Гарбулька. У школы з'яўляецца вялікі радыс абслугоўвання (3—5 *км*). Дырэктар школы мае культурны выгляд, у школе цёпла, утульна. Цяжкасцю ў рабоце школы з'яўляецца вялікі радыус абслугоўвання (3—5 *км.*) Дырэктар школы т. Гарбулька стаў на шлях перанясення пазашкольнай работы ў калгасы. У калгасах з дапамогаю праўленняў калгасаў арганізованы чырвоныя куткі, да якіх прымацованы настаўнікі для правядзення пазашкольнай работы з дзецьмі. Там-жа выпускаюцца сценгазеты, праводзіцца работа з бацькамі па педпрапагандзе. Гэтае мерапрыемства памагло школе прыцягнуць увагу бацькоў да пытанняў выхаваўчай работы і ўзмацніць матэрыяльную базу школы.

Гомельская яўрэйская школа ім. Леніна праводзіць работу па інтэрнацыянальнаму выхаванню. У школе ёсць некалькі гурткоў эсперанто. Гэтая работа праводзіцца ўжо некалькі год. У гэтым годзе яна разгарнулася асабліва. Школа звязана з дзіцячымі арганізацыямі Захада і атрымлівае калектыўныя пісьмы. Пісьмы прапрацоўваюцца ў класах і састаўляюцца калектыўныя адказы. У перапісцы ўдзельнічаюць і бацькі. Школа па пастаноўцы інтэрнацыянальнай работы заняла ў гэтым годзе адно з першых месц сярод школ СССР.

28 Менская школа, дырэктар Стэльмах. Школа ў мінулыя гады была адной з адсталых школ, з дрэннай дысцыплінай, антысанітарыяй. Дырэктар школы за гэты год дабіўся каласальных поспехаў у пастаноўцы выхаваўчай работы. Школа разгарнула вялікую работу па педпрапагандзе сярод бацькоў і вучняў. Ёсць вялікі бацькоўскі актыў, які дапамагае школе ў паўсядзённай рабоце. Члены Камсода і актывісты-бацькі прымацованы да асобных, цяжка выхоўваемых вучняў-дэзарганізатараў, звязаны з іх бацькамі, наведваюць іх на даму. Ёсць ужо вялікія вынікі ў сэнсе выпраўлення асобных дзяцей-дэзарганізатараў. У школе вядзецца вялікая работа за соцыялістычныя адносіны да дзяржаўнай маёмасці, за культурны выгляд школы, за санітарыю. Школа чыстая, апратная. Пасля першай змены ў школе зусім чыста, так што амаль не трэба праводзіць уборку.

11-я руская і 13-я беларуская школы, дырэктар Дзетко. Кожны педагог школы ведае сваіх вучняў, вывучыў іх інтарэсы, умовы жыцця ў сям'і, ведае што дзеці чытаюць. У школе разгорнута вялікая пазашкольная работа, працуе некалькі самадзейных гурткоў—авіямадэльны, музыкальны, харавы і іншыя. Вучні ўцягнуты ва ўсе віды школьнай работы. Шляхам правільнай пастаноўкі выхаваўчай работы школа дабілася таго, што школьнікі Эпштэйн, Аверух і іншыя з адсталых і недысцыплінаваных сталі прыкладнымі вучнямі.

Багутычская 2-камплектная школа Ельскага раёна, загадчык т. Тамашчук. У школе дысцыпліна, парадак, чыстата. Дзеці апратныя, дысцыплінаваныя, берагуць школьную маёмасць, кніжкі. Сшыткі чыстыя і акуратныя, абернуты ў газетную паперу. Вялікі перапынак праводзіцца арганізавана.

Васілевіцкая НСШ Рэчыцкага раёна, дырэктар т. Гесь. У школе ўзорная чыстата, парадак. Школа мае культурны выгляд. Дзеці берагуць школу, самі сочаць за чыстатой, парадкам. Калі на сцяне ці на парце паяўляецца царапіна, гэта з'яўляецца цэлым здарэннем у класе. Стараста класа і дзяжурны зараз-жа высвятляюць, хто гэта зрабіў і адпаведна рэагуюць. Дзеці і самі маюць культурны выгляд. У класе сядзяць без верхняй вопраткі, прычосаныя, апратныя. Былі выпадкі калі дзеці дома

ўстрайвалі маткам скандалы за тое, што ў школу прыходзіцца ісці ў неапратнай вопратцы. Школа працуе ў дзве змены. У трэцюю змену працуе школа для дарослых. З прычыны гэтага школа не мае магчымасці разгарнуць пазашкольную работу. Гэта з'яўляецца слабым месцам школы.

Але дасягнутыя поспехі некаторых школ нас ні ў якім разе не могуць задаволіць. Для самаўспакаення не павінна быць месца, бо, не гледзячы на нашыя дасягненні, школа ўсё яшчэ адстае ад тых патрабаванняў, якія партыя і ўрад прад'яўляюць да яе. І асабліва адстаем мы ў галіне выхаваўчай работы.

Неабходна памятаць, што класава варожыя выступленні маюць месца галоўным чынам у тых школах, дзе слаба пастаўлена ці зусім адсутнічае выхаваўчая работа. Неабходна канстатаваць зусім нездавальняючую пастаноўку партыйна-палітычнай работы сярод настаўніцтва, студэнцтва і асабліва сярод палітасветработнікаў. Месцамі сур'ёзная палітыка-масавая і выхаваўчая работа падмяняюцца паказной шуміхай і прымяненнем рознага роду неўласцівых большэвіцкай прапагандзе метадаў у выглядзе пяцімінутных палітінфармацый, так званых палітмінутак, і т. д.

Неабходна з усёй сілай падкрэсліць нездавальняючую пастаноўку грамадска-палітычных дысцыплін у школах, тэхнікумах і ВНУ. Нават такая дысцыпліна як гісторыя партыі, у сярэдніх школах, рабфаках і тэхнікумах, выкладаецца ў многіх выпадках беспартыйнымі ці недастаткова праверанымі членамі партыі. У выніку такога становішча ёсць рад фактаў працягвання контррэвалюцыйнага трацкісцкага хламу ў выкладанні. Так званы прафесар БДУ Галанза ідэалізаваў Плеханава, даваў трацкісцкія ўстаноўкі.

Неабходна да ўчастка культурнага фронта прыцягнуць увагу ўсёй партыйнай арганізацыі, мабілізуючы на ўзмацненне класавай пільнасці комуністаў і чэсных беспартыйных, працуючых на культурным фронце, мабілізуючы іх на барацьбу з усякімі праяўленнямі класава варожых трацкісцка-зіноўеўскіх вылазак, на рашучае выкарчоўванне ўсякага роду ахвосця, прымазаўшагася і акапаўшагася ў культурных установах.

Неабходна з усёй рашучасцю паставіць перад кожным кіраўніком асобнага ўчастка культурнага будаўніцтва задачу ўважлівага і канкрэтнага вывучэння кожнага работніка і пастаяннага кантроля за яго работай. У першую чаргу павінен быць праверан састаў выкладчыкаў грамадска-палітычных дысцыплін і забяспечана высокая палітычная якасць і партыйная завостранасць ва ўсёй выкладчыцкай рабоце.

---

*Грыцкевіч*

# Бліжэй да мас

*(Аб перабудове профсаюзаў)*

«Профсаюзы можна назваць пагалоўнай арганізацыяй пануючага ў нас рабочага класа. Яны з'яўляюцца школай комунізма. Яны вылучаюць з свайго асяроддзя лепшых людзей для кіруючай работы па ўсіх галінах упраўлення. Яны ажыццяўлюць сувязь паміж перадавымі і адсталымі ў саставе рабочага класа. Яны злучаюць рабочыя масы з авангардам рабочага класа». (Сталін, «Пытанні ленінізма», выд. 9-е, стар. 203.) Профсаюзы ў СССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі дабіліся раду вельмі сур'ёзных поспехаў: надзвычай узрос лік членаў профсаюзаў, яшчэ больш узмацнілася сувязь профсаюзаў і іх апарата з шырокімі працоўнымі масамі, расце і шырыцца шматмільённы рух ударніцтва і соцспаборніцтва, профсаюзы ўсё больш паспяхова змагаюцца за арганізацыю растучай вытворчай актыўнасці рабочага класа і за добрую пастаноўку забеспячэння, палепшэнне жыллёвых умоў, правільнае нарміраванне працы, арганізацыю зарплаты, задавальненне культурных запатрабаванняў, паднясце ідэйна-палітычнага ўзроўню членаў саюза.

Гэтыя поспехі дасягнуты профсаюзамі ў бязлітаснай большэвіцкай барацьбе супроць дробна-буржуазных, апартуністычных трэд'юніяніцкіх скажэнняў лініі партыі ў галіне профсаюзаў.

Мінулае права-апартуністычнае кіраўніцтва ВЦСПС на чале з Томскім трымала курс на ператварэнне самастойных саюзаў у секцыі «агульнага расійскага цэнтра профсаюзнага руху», што па сутнасці стварала разрыў профсаюзаў з вытворчасцю, з шырокімі працоўнымі масамі. Гэта таксама азначала адрыў профсаюзаў ад партыі. Такая палітыка вяла да **аслаблення** дыктатуры пролетарыята, да ўзмацнення класавых ворагаў. Рабочы клас пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі выкінуў гэтых «лідэраў», з профсаюзнага кіраўніцтва.

Разбіўшы ўшчэнт іх спробы выкарыстаць профсаюзы для барацьбы з партыяй, новае профсаюзнае кіраўніцтва пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) рашуча змагалася як супроць рэштак правага, так і «левага» апартунізма ў галіне прафесіянальнага руху СССР.

Няўхільна расце роля профсаюзаў у соцыялістычным будаўніцтве. Перадача профсаюзам функцый Наркампрацы, соцстраха, функцый РСІ па нізавому кантролю,—усё гэта значна ўздымае ролю профсаюзаў у соцыялістычным будаўніцтве, а разам з тым ускладняе работу профсаюзаў, павялічвае аб'ём іх адказнасці як за вытворчасць, так і ў асаблівасці за матэрыяльна-культурнае абслугоўванне працоўных мас.

XVII з'езд партыі паставіў перад усімі грамадскімі арганізацыямі, у тым ліку і перад профсаюзамі, задачу «**павышэння якасці работы ва ўсіх галінах, у першую чаргу якасці арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва**». IV Пленум ВЦСПС (ад 5—6 верасня 1934 г.) прыняў канкрэтныя мера-

прыемствы па перабудове профсаюзаў у мэтах падпарадкавання арганізацыйнай структуры і кіраўніцтва вырашэнню ўзросшых палітычных задач. Гэтая перабудова вырашае задачу пераходу ад агульнага да канкрэтнага кіраўніцтва, канчаткова знішчае функцыяналку, павышае адказнасць профработнікаў за даручаную работу, набліжае профсаюзы да вытворчасці, да штодзённай жывой сувязі з шырокімі працоўнымі масамі. У гэтым і заключаецца сэнс перабудовы профсаюзаў—неадлучнай часткі ўсяго механізма дыктатуры пролетарыята, аднаго з важнейшых «прывадных рэмняў» (Сталін) ад партыі да мас.

У сучасны момант, як ніколі, ад профсаюзаў патрабуецца канкрэтнае веданне вытворчасці, веданне сваёй справы, ўжыванне выключна дыферэнцыяванага падыходу ў адносінах абслугоўвання працоўных мас, улічваючы асаблівасці кожнай катэгорыі. Яшчэ на IX з'ездзе профсаюзаў (1932 г.) т. Кагановіч падкрэсліў неабходнасць спалучэння на практыцы клопатаў аб паўсядзённасці. «Тварам да вытворчасці ў сваёй профсаюзнай рабоце,—гаварыў т. Кагановіч,—гэта значыць у пытаннях зарплаты, нарміравання працы, забеспячэння, жылбудаўніцтва быць на першым месцы. Для профсаюзаў у шасці ўказаннях т. Сталіна галоўнейшымі, рашаючымі з'яўляюцца пытанні зарплаты і нарміравання працы, аховы працы, забяспечэння і жылля. Іменна адсюль павінны «ісці» профсаюзы да пытанняў вытворчасці». Такім чынам лозунг «тварам да вытворчасці», які з'явіўся асноўным лозунгам ў барацьбе з правымі ў профсаюзах, «астаецца ў поўнай моцы на даным этапе» (Кагановіч).

Задача профсаюзаў заключаецца зараз у тым, каб усебакова ўзмацніць **ролю** самастойных вытворчых саюзаў, надаючы ім вялікія правы ў справе арганізацыі ўсебаковага абслугоўвання працоўных мас, ў справе ўцягнення працоўных ў актыўнае соцыялістычнае будаўніцтва і паднясця ідэйна-палітычнага ўзроўню. Адбыўшаеся разбуйненне профсаюзаў у 1931 г. на 47 самастойных саюзаў у сучасны момант далёка не задавальняе ўзросшых запатрабаванняў працоўных мас. Выкананне першай пяцігодкі ў чатыры гады, а таксама ажыццяўленне задач другой пяцігодкі, выклікалі велізарныя змяненні ў эканоміцы ўсяго Совецкага саюза. Выраслі новыя галіны вытворчасці, пабудаваны новыя заводы, рад заводаў рэканструяван, змянілася структура гаспадарчых органаў, значна выраслі профсаюзы, якім пераданы новыя функцыі—соцыяльнае страхаванне, ахова працы, арганізацыя масавага кантроля рабочых на прадпрыемствах. Побач з велізарным ростам ўсёй народнай гаспадаркі расце соцыялістычная культура. Працоўныя БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б на чале з т. **Гікало** дабіліся значных перамог на фронце соцыялістычнай культуры. БССР, пры дапамозе брацкіх рэспублік, першая ў Совецкім саюзе ажыццявіла ўсеагульнае абавязковае навучанне, стварыла шырокую сетку беларускіх, яўрэйскіх, польскіх, рускіх школ. Зараз у БССР налічваецца 67 ПСШ, 1805 НСШ, 5240 пачатковых. У школах навучаецца 1 013 000 вучняў, створана 31 навукова-даследчая ўстанова, 81 тэхнікум, якія рыхтуюць спецыялістаў розных галін працы. У БССР ёсць сотні бібліятэк, звыш 1 500 раённых і вясковых дамоў соцыялістычнай культуры, дзесяткі палітасветных баз. Дашкольныя ўстановы ў 1934 г. ахапілі 163 994 дзяцей дашкольнага ўзросту.

У гэтым працэсе будаўніцтва соцыялістычнай культуры вызначаліся самастойныя галіны работы. Напрыклад, па дашкольнай справе працуе звыш 3 000 работнікаў членаў саюза, тое-ж і па палітасветнай рабоце. Звыш 4 000 работнікаў занята ў вышэйшых школах і навукова-даследчых установах. Усіх членаў існаваўшага раней профсаюза асветы налічвалася каля 40 000 чалавек ці 92% працуючых, звыш 2 000 селькомаў і мясцко-

маў, апрача раённых камітэтаў. Зразумела, такая грамознасць саюза не давала магчымасці Цэнтральнаму праўленню як след наладзіць канкрэтнае і аператыўнае кіраўніцтва, дыферэнцыявана абслужыць ўсе катэгорыі работнікаў асветы. Такім чынам арганізацыйная структура профсаюзаў, якая існавала раней, далёка не адпавядала тым запатрабаванням, якія прад'яўляюцца да профсаюзаў ў сувязі з каласальным ростам народнай гаспадаркі нашай краіны.

Разбуйненне профсаюзаў, праведзенае па ініцыятыве т. Сталіна, ёсць працяг далейшага развіцця бальшэвіцкага наступлення на капіталістычныя элементы, якое праводзіць партыя пад кіраўніцтвам свайго геніяльнага правадыра—т. Сталіна. Гэта—далейшы крок па шляху ўзмацнення профсаюзаў, падняцця іх ролі ў агульнай справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Выходзячы з рашэнняў IV пленума ВЦСПС і ЦК саюза працасветы на пленуме ЦП саюза ў снежні месяцы 1934 г. вырашана пытанне аб разбуйненні саюза працаўнікоў асветы на чатыры самастойныя вытворчыя саюзы:

1. Работнікаў пачатковых і сярэдніх школ з ЦК, які знаходзіцца ў Менску.
2. Дашкольных работнікаў.
3. Палітасветработнікаў.
4. Вышэйшых навучальных ўстаноў і навуковых работнікаў з цэнтральнымі праўленнямі.

Арганізацыйная перабудова мае вельмі важнае значэнне. Зараз кіруючы апарат вытворчых саюзаў будзе мець большыя магчымасці падыйсці бліжэй да вытворчасці, лепш абслужыць членаў свайго саюза. Апрача таго, перабудова профсаюзаў мае яшчэ цэлы рад іншых станоўчых момантаў, як: скарачэнне платнага апарата, структура нізавой сеткі, арганізацыя добраахвотнага актыва і інш.

Перабудова профсаюзаў азначае перабудову работы самога профсаюзнага апарата з пункту гледжання ўзмацнення яго праверанымі, падрыхтаванымі кадрамі. Работа профапарата мае вялікае значэнне. Кожнае пытанне павінна быць вырашана хутка, правільна і поўнасцю. Яго работа павінна быць прасякнута чоткасцю, аператыўнасцю, гібкасцю і чуласцю да кожнай справы жывых людзей. Тав. Кагановіч у сваім дакладзе XVII-му з'езду ВКП(б) падкрэсліў, што работнікі профапарата «за паперай зачастую не бачаць ініцыятывы, актыўнасці і жывога жыцця, якое б'е ключом у нас на заводах і фабрыках. Профсаюзам неабходна на аснове рашэнняў з'езда партыі перабудавацца і палепшыць сваю работу, выкараніць канцэляршчыну і ў большай меры арганізоўваць творчую актыўнасць ўдарнікаў і ўсіх членаў профсаюзаў». Гэтыя ўказанні т. Кагановіча цалкам і поўнасцю адносяцца і да работы нашага профсаюза. Па саюзу пачатковай і сярэдняй школы ў радзе раёнаў (Брагін, Горкі, Дуброўна, Тураў) нашы профработнікі не зусім зразумелі сутнасць перабудовы профсаюзаў. Замест набліжэння да вытворчасці, да ўсіх членаў саюза, ведання іх жыцця, умоў працы, становішча вытворчасці, аказання канкрэтнай практычнай дапамогі, асобныя РК саюза адарваліся ад практычнага жыцця. Вось характэрны даклад старшыні Брагінскага РК саюза пачатковых і сярэдніх школ т. Пракоф'ева на прэзідыуме ЦК саюза:

— Колькі ў вашым раёне працуючых у школах і колькі з іх членаў саюза?

— Працуе 290, членаў саюза 237.

— Які процант выканання збору членскіх узносаў?

— Звесткі аб гэтым згубіў у вагоне.

— Колькі настаўнікаў маюць індывідуальныя агароды?

— Не ведаю.

— Колькі атрымана сродкаў па мясцоваму бюджэту і соцстраху на арганізацыю настаўніцкіх гаспадарак?

— 11000 рублёў.

— Як выкарыстаны гэтыя сродкі, што куплена?

— Не ведаю.

— Колькі настаўнікаў ахоплена марксісцка-ленінскай вучобай?

— Аб гэтым звесткі забыў узяць.

«Не ведаю», «забыў», «згубіў»—з такімі матэрыяламі старшыня Брагінскага РК саюза прыехаў дакладваць ЦК саюза аб рабоце РК. Гэты факт гаворыць сам за сябе. Старшыня РК, які поўнасцю адказвае за работу профарганізацыі раёна, не ведае колькі настаўнікаў ахоплена марксісцка-ленінскай вучобай, як выкарыстаны сродкі на арганізацыю матэрыяльнай базы настаўнікаў, не займаецца пытаннем профчленства, выкананнем фінпланаў (членскія ўзносы, соцстрах). Усё гэта тлумачыцца тым, што ў практыцы работы некаторых раённых профарганізацый нашага саюза не зжыты асуджаныя метады работы, што перабудову профсаюза не зразумелі. Быць адарваным ад вытворчасці, не ведаць членаў саюза, іх быту, жыцця, і працы, не дапамагаць ім—значыць губіць работу, значыць ігнараваць дырэктывы партыі ў адносінах профсаюзаў.

Мы павінны дабіцца такога становішча, каб уся сістэма нашай работы была цалкам і поўнасцю падпарадкавана задачам павышэння якасці вытворчай работы, шляхам разгортвання соцспаборніцтва, задавальнення патрэб і запросаў кожнага члена саюза. У гэтым сэнсе профарганізацыі павінны выкарыстаць адзін з галоўных метадаў работы—вытворчыя нарады. Гомельскі РК саюза пачатковай і сярэдняй школы, які правільна зразумеў перабудову профсаюзаў у галіне разгортвання работы і вытворчых нарад, можа служыць прыкладам астатнім раёнам БССР. Там праз вытворчыя нарады мясцкомаў і селькомаў арганізуецца актыўнасць масы членаў саюза на вырашэнне практычных задач школы. Напрыклад, МК школы ім. Лібкнехта праз вытворчыя нарады папулярызуе ўзоры работы асобных настаўнікаў-перадавікоў на фронце ўсёй школьнай работы. У гэтай школе класны кіраўнік на вытворчай нарадзе дакладвае, як ён змагаецца за ўзорную пастаноўку работы ў сваім класе. Настаўніца 4 класа расказвала якім шляхам яе клас заваяваў пераходны сцяг школы ад 10-га класа. Нізавыя звенні гомельскай профарганізацыі прыдаюць вялікае значэнне вытворчым нарадам. У кожнай школе горада апошнія маюць свае канкрэтныя планы далейшага разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва, выкаранення недахопаў школы ў выкананні праграм. На паседжанні вытворчых нарад абавязкова заслухоўваюцца не толькі перадавікі, але і адстаючыя з мэтай практычнай дапамогі ім па вывядзенню школы ў перадавыя. Далейшае разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва, рацыяналізацыі, абмену вопытам—вось асноўныя пытанні, вакол якіх павінны працаваць вытворчыя нарады.

Практыка паказвае, што ў райкомах саюза, якія да гэтага часу не перабудавалі сваёй работы, якія гэтую перабудову адкладаюць да «больш падыходзячага часу», не ўсё абстаіць добра.

Узяць пытанне аб профсаюзным членстве. Тут не ўсё ў парадку. Ні ў якім разе нельга лічыць нармальным, калі ў паасобных раёнах гэтаму важнейшаму пытанню не прыдаецца патрэбнай увагі. У Горацкім раёне профсаюзным членствам не ахоплена 18% працуючых у школах. У Брагінскім раёне з 299 работнікаў школ не ахоплена саюзам 62 чалавекі. З такім ганебным становішчам мы павінны пакончыць як найхутчэй шляхам набліжэння профсаюза да кожнага працуючага, з тым, каб

кожны работнік школы, с/совета, калгаса, раённыя арганізацыі змаглі значна больш адчуваць дзейнасць нашага саюза.

За апошнія гады роля профсаюзаў у справе соцбудаўніцтва надзвычай вырасла. Партыя і ўрад перадалі ім соцстрах, работу па ахове працы, нізавыя органы РСІ—масавы кантроль. У галіне соцстраха профарганізацыі павінны забяспечыць паступленне сродкаў, устанавіць пільны кантроль за эфектыўным выкарыстоўваннем гэтых сродкаў на месцы праз арганізацыі шырокага актыва соцстрахдэлегатаў і кіраўніцтва імі. Практыка мінулых гадоў гаворыць аб тым, што работнікі нізавых звенняў профсаюза недастаткова асвоілі работу па соцстраху, таму аўладанне ўсёй тэхнікай, усёй справай соцыяльнага страхавання з'яўляецца неадкладнай задачай.

Вялікае значэнне мае работа грамадскіх інспектароў працы. Яны павінны добра знаёміцца з совецкім заканадаўствам, праверыць колдагавары па пытаннях аховы працы, сачыць за расходваннем сродкаў, якія адпускаюцца ўрадам на паляпшэнне ўмоў працы работнікаў школ.

Зараз праводзіцца падрыхтоўчая работа па перазаключэнню колдагавароў. У паасобных раёнах (Орша, Гомель, Менск) гэтая кампанія ператварылася ў канкрэтную справу профарганізацый. У праверцы колдагавароў па Аршанскаму раёну прымалі ўдзел усе настаўнікі. Сабрана звыш 45 прапаноў, 15 настаўнікам адрамантаваны кватэры, 3 настаўнікі забяспечаны новымі кватэрамі, культурна абсталёвана 8 раённых школ. Выяўлена недаплата па 10 школах па ўсіх відах зарплаты больш як на 700 рублёў, 5 настаўнікаў не атрымлівалі за перагрузку. Справа аб гэтых злоўжываннях перадана судовым органам. У часе правядзення работы перазаключэння колдагавароў прынята ў профсаюз 65 чалавек, 93 настаўнікі ўзялі ўдарныя абавязацельствы. Кожны РК саюза павінен улічыць вопыт і памылкі работы аршанскай профарганізацыі.

Работа профсаюзаў у галіне масавага кантролю мае вялікае значэнне. «Асноўным зместам усёй кантрольнай работы як Камісіі партыйнага кантроля, так і масавых арганізацый, профсаюзаў, комсамола і друку— павінны быць пытанні абслугоўвання мас. Гэта—пытанні снабжэння, гандлю, вытворчасці і якасці тавараў шырокага спажывання. Гэта—пытанні жылля, комунальнага і культурнага абслугоўвання, заработнай платы, нарміравання і арганізацыі працы, соцыяльнага страхавання і аховы працы. Гэта—разгляд і задавальненне справядлівых скарг і заяў рабочых, служачых, калгаснікаў і ўсіх працуючых». (З прамовы т. Кагановіча на пленуме Камісіі партыйнага кантроля.)

Практычна кантрольная работа профсаюзаў павінна быць накіравана на тыя ўчасткі, дзе захованы матэрыяльныя цэннасці, весці жорсткую барацьбу з раскраданнем, абмерваннем і абважваннем. Арганізацыю масавага кантроля ні ў якім разе нельга падмяняць вылучэннем асобных бюро кантроля, кантрольнымі нарадамі і інш. Гэтую работу трэба разглядаць як паўсядзённую задачу мясцкомаў, селькомаў і астатніх саюзных арганізацый. Профработнікі, ажыццяўляючыя кантроль, павінны ўмець добра разбірацца ў бухгалтэрыі, у аналізе калькуляцыі цэн, ведаць шляхі магчымых злоўжыванняў. Масавы кантроль павінен заняць вялікае месца ў рабоце МК, СК і райкомаў саюза. Для ўдзелу ў масавым кантролі неабходна прыцягваць профсаюзны актыў. Профкалектывы не павінны абмяжоўвацца толькі «сігналізацыяй» выяўленых недахопаў, а адразу тут-жа на месцы дабівацца выпраўлення гэтых недахопаў. Партыя і ўрад за апошнія гады вынеслі рад гістарычных пастаноў аб школе (аб праграмах і рэжыме ў школе, аб структуры і інш.), пастаноў аб матэ-

рыяльным забеспячэнні настаўнікаў (забеспячэнне індывідуальнымі агародамі, выдзяленне вялікіх сродкаў на арганізацыю жывёлагадоўчых настаўніцкіх гаспадарак і інш.). Тут павінна быць звернута вялікая ўвага ўсіх нізавых профарганізацый у галіне масавага кантроля.

У задачу профсаюзаў уваходзіць важнейшае пытанне—разгляд скаргаў, заяў працоўных. Настаўнікі, тэхнічныя работнікі зварочваюцца ў профсаюзныя арганізацыі за вырашэннем матэрыяльна-бытавых і вытворчых пытанняў. З боку райкомаў саюза павінна быць праяўлена выключная ўважлівасць і чуласць у адносінах да іх вырашэння. У сістэме нашай работы не павінна быць ніводнага выпадка несвоечасовага рэагавання на усе скаргі і заявы працоўных. У гэтых адносінах справа архангельскага Крайсовпрофа аб бюракратычных, няўважлівых адносінах да вырашэння скарг і заяў павінна з'явіцца для нас вялікай перасцярогай.

У сістэме работы саюза павінна быць аддана выключная ўвага марксісцка-ленінскай вучобе настаўнікаў, завочнаму навучанню, бо паспяховае выкананне вытворчай праграмы, задач комуністычнага інтэрнацыянальна-класавага выхавання залежыць ад павышэння кваліфікацыі і палітычнага ўзроўню настаўнікаў.

Перабудоўваючы сваю работу не фармальна, а па-сапраўднаму, узмацняючы нізавыя звенні—МК, сельком і райком, вядучы жорсткую барацьбу з канцэлярскімі, бюракратычнымі метадамі работы, арганізуючы для ўдзелу ў профрабоце добраахвотны актыў, дапамагаючы перадольваць ім цяжкасці, шырока разгортваючы соцспаборніцтва і ўдарніцтва, павышаючы якасць марксісцка-ленінскай вучобы, яшчэ больш узмацняючы рэволюцыйную, класавую пільнасць—толькі пры ажыццяўленні гэтых задач профсаюз зможа выканаць сваю задачу як «школы комунізма», як «прываднога рэмня ад партыі да мас».

Ні ў якім разе нельга забываць аб тым, што паспяховы рост соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне выклікае шалёнае супраціўленне класавых ворагаў. Карыстаючыся прытупленнем класавай пільнасці ў некаторых работнікаў, класавыя ворагі імкнуцца падрываць паспяховае ажыццяўленне задач соцыялістычнага будаўніцтва. За апошні час на фронце соцыялістычнага культурнага будаўніцтва меліся праявы класава варожых элементаў, якія спрабавалі перашкаджаць нам у практычнай рабоце.

Вось чаму наша задача аб узмацненні класавай пільнасці, павышэнні марксісцка-ленінскай вучобы сярод работнікаў культурнага фронта павінна заняць віднае месца ў рабоце ўсёй нашай профсаюзнай арганізацыі, ператварыцца ў канкрэтнае дзеянне кожнага профкалектыва.

VII з'езд Советаў прыняў прапанову партыі, якая была зроблена па ініцыятыве тав. Сталіна, аб унясенні змен у совецкую канстытуцыю. Разгортванне совецкай дэмакратыі яшчэ вышэй падымае ўсё растучую палітычную актыўнасць шматмільённых мас працоўных нашай краіны. Профсаюзы становяцца перад новымі грандыёзнымі задачамі—яны прызваны ўзначаліць актыўнасць і ініцыятыву мільёнаў пролетарыяў.

«Указанне тав. Сталіна аб уважлівых адносінах да людзей» яго лозунг «Кадры рашаюць усё» павінны стаць душой профсаюзнай работы. Профсаюзныя работнікі павінны пранікнуцца сталінскай чуласцю да людзей, і яго майскую прамову палажыць у аснову сваёй дзейнасці» («Правда» № 146 ад 29/IV-35 г.»).

---

*Берын і Арван*

# Аб інтэрнацыянальнай сувязі нашых школьнікаў

*(Вопыт работы па інтэрнацыянальнай сувязі Гомельскай яўрэйскай школы імя Леніна)*

Гомельская школа імя Леніна налічвае каля 1 000 дзяцей. Некаторая частка вучняў прыходзіць у школу з рознымі непажаданымі для нас настроямі, якія прыносяцца з дамашняга асяроддзя. Сярод бацькоў нашых вучняў ёсць выхадцы з дробна-буржуазных партый як Бунд і інш., уплыў якіх яшчэ часамі адчуваецца сярод некаторых бацькоў.

Настаўніцкі калектыў школы энергічна ўзяўся за сапраўднае разгортванне інтэрнацыянальнага выхавання вучняў, а таксама іх бацькоў. Накіроўваючы ўсю работу школы, увесь педагагічны працэс у напрамку выхавання дзяцей у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма, мы звярнулі вялікую ўвагу на інтэрнацыянальную сувязь, якая праводзіцца па наступных лініях:

1. Школа шчыльна звязана з мясцовай школай імя Комінтэрна (беларускай). Гэтая сувязь ажыццяўляецца шляхам арганізацыі супольных вечароў, заключэннем соцдагавароў паміж паралельнымі класамі, піонератрадамі і іншымі арганізацыямі.

2. Школа трымае сувязь з адной азербайджанскай школай шляхам перапіскі, пасылкі фатаграфій і т. д.

3. Асабліва цікава пастаўлена сувязь школы з рабочымі і пролетарскімі дзецьмі заграніцай. Гэтая сувязь значна палегчылася дзякуючы вывучэнню мовы—эсперанто. У школе існуе ячэйка прыхільнікаў інтэрнацыянальнай сувязі, якая ахапляе больш 300 вучняў, 100 бацькоў і 40 настаўнікаў нашага калектыва.

Арганізована 5 гурткоў па вывучэнню мовы эсперанто, якімі ахоплена каля 100 вучняў. Школа мае сувязь з многімі населенымі пунктамі, якія распалажаны ў 29 розных краінах. Возьмем самыя важныя:

Еўропа—Германія, Швецыя, Нарвегія, Данія, Галандыя, Бельгія, Аўстрыя, Балгарыя, Францыя, Іспанія, Англія; Амерыка—Злучаныя Штаты, Бразілія, Аргентына; Азія—Японія і Кітай; Афрыка—Мароко (французская); Аўстралія—Новая Зеландыя.

У рапарце цэнтральнай яўрэйскай піонерскай газеце Беларусі «Юнгер Ленінец» эсперантысты пішуць:

> «Мы паслалі звыш 600 пісьмаў у розныя канцы свету і атрымалі звыш 500 пісьмаў ад 16 краін. Апрача індывідуальнай карэспандэнцыі ў нас шырока развіта калектыўная перапіска з заграніцай. Мы трымаем цесную сувязь з піонерамі Галандыі, Францыі, Японіі і інш. краін. Кожны піонер-эсперантыст прымацован да атрада і звязвае яго з заграніцай». («Юнгер Ленінец», 17 красавіка 1934 г.)

Прыводзім тут некалькі пісьмаў. Перад намі ляжыць вучнёўскае пісьмо, якое паслана Амстэрдамскаму камітэту па арганізацыі антываен-

най выстаўкі. Пісьмо гэтае паслана нашымі вучнямі-эсперантыстамі і зацверджана на агульным вучнёўскім сходзе.

«Ад імя 1 000 вучняў і піонераў Гомельскай школы імя Леніна пасылаюць Вам юныя таварышы па інтэрнацыянальнай сувязі чырвонае прывітанне ў сувязі з адчыненнем Вашай выстаўкі супроць вайны.

З кожным годам паглыбляецца крызіс ў капіталістычных краінах у той час, як рабочы клас пад кіраўніцтвам Усесаюзнай комуністычнай партыі большэвікоў будуе бяскласавае грамадства.

Імперыялісты ўсіх краін не могуць гэта спакойна ўспрыймаць і імкнуцца ўсякімі сродкамі напасці на нашу соцыялістычную бацькаўшчыну.

Соцыялістычнае будаўніцтва—гарантыя абароназдольнасці Совецкага саюза, але для гэтага нам патрэбны высокакваліфікаваныя кадры, якія маглі-б задавальняць запатрабаванні нашага будаўніцтва. Таму мы вядзем барацьбу за аўладанне асновамі навукі і за свядомую дысцыпліну.

Мы ўпэўнены, што галандскія рэволюцыйныя пролетарыі не дапусцяць нападу на іх пролетарскую бацькаўшчыну.

Уперад да барацьбы з імперыялізмам! Рот-Фронт!»

## З пісьма марксісцка-ленінскаму гуртку гор. Сафіі

*(Балгарыя)*

...«Ваша пісьмо мы атрымалі ў той час, як ў Чырвонай сталіцы СССР адбыўся гістарычны з'езд большэвіцкай партыі. Як толькі з'явіўся ў друку даклад тав. **Сталіна**, мы прыступілі да распрацоўкі яго ў піонератрадах і ў школе.

Наша школа добра рыхтавалася да з'езда. Мы ўключыліся ў паход імя XVII з'езда партыі, праводзілі вечары, сходы, арганізавалі два палітгурткі, гурток бязбожнікаў, АСО і інш. Мы паднялі якасць вучобы і дысцыпліну.

Мы заканчваем наша калектыўнае пісьмо ад імя ўсёй піонерарганізацыі і абяцаем, што ў другім пісьме мы Вам раскажам аб рабоце з'езда і аб жыцці дзяцей ў нашай школе...

*З піонерскім прывітаннем*

*БРЫГАДА ЭСПЕРАНТЫСТАЎ*». (40 подпісаў)

## А вось некаторыя пісьмы, атрыманыя ад заграгічных піонераў і школьнікаў

«... У нашай паганай капіталістычнай Галандыі становішча ўсё больш абвастраецца. Буржуазія і яе апошняя сабака—фашызм, накіроўвае свае ўдары супроць комуністычнай партыі Галандыі; ідуць па стапам Гітлера і падпальваюць Амстэрдамскую тэлефонную станцыю і абвінавачваюць комуністаў».

У гэты-ж самы час яны распаўсюджваюць лістоўкі (лістоўка прыкладаецца), у якіх нас абвінавачваюць як падпальшчыкаў.

Дарагія таварышы, піонеры, пішыце аб Вашай дзейнасці, рабоце і вучобе. Гэта нам паслужыць прыкладам у барацьбе супроць фашызма. Мы тут будзем працаваць і працаваць упарта, пакуль наш агідны вораг не здохне. «Рот-Фронт!»

Амстэрдам, 1 лютага 1934 г.

## Яшчэ пісьмо, якое прыслалі 3 нямецкія піонеры-вучні школы

«Дарагі піонер-таварыш! Рот-Фронт!

Тваё пісьмо мы атрымалі і чыталі з вялікім захапленнем. Зараз мы табе пішам аб нашым жыцці.

Нашы дзеці рабочых страшэнна галадаюць, вельмі часта прыходзіцца хадзіць у школу галоднымі. У нас у Цюрынгіі зараз фашысцкі ўрад. Такі ўрад не можа спачуваць рабочым і іх дзецям. Зусім не можаце сабе ўяўляць, як з намі абыходзяцца ў школе. Настаўнік высмейвае нас—«паршывыя комуністы». Ён нас, і толькі нас, б'е кожны дзень і лае. Ён высмейвае Совецкі саюз. Ён кажа, што ў Совецкай Расіі валяюцца дзеці па вуліцах, не маюць хлеба і пакрова над галавой.

Нашы буржуазныя настаўнікі вельмі мала цікавяцца рабочымі і іх дзецьмі. Яны натраўляюць на нас багатых вучняў: «Не гаварыце, не дружыце з дзецьмі комуністаў» і т. д.

У Германіі ўжо сем мільёнаў беспрацоўных, а к зіме чакаецца яшчэ больш. Многа дзяцей ходзяць галодныя, абарваныя па вуліцах, яны капаюцца ў смеццевых скрынях, каб знайсці што-небудзь паесці, бо іх бацькі беспрацоўныя і галадаюць самі.

Наш кліч:

Смерць буржуазіі, смерць фашызму!

Хай жыве салідарнасць усіх працоўных!

Свабода і хлеб для ўсіх працоўных!

Прывітанне ўсім дзецям рабочых СССР!

Будзьце гатовы! Дзеці працоўных Германіі заўсёды гатовы!»

Для таго, каб яскравей уясніць становішча дзяцей працоўных у капіталістычных краінах, дадзім некалькі цытат з асобных пісьмаў.

«Многія дзеці не ходзяць ў школу, бо не маюць абутку і вопраткі. У школах вучаць кожны дзень рэлігіі, перад заняткамі кожны дзень моляцца богу і святым. Тых, якія гэтага не робяць, б'юць». (З пісьма з Галандыі піонеру Г. Юдзіцкаму.)

«Вельмі мала арабскіх вучняў навучаецца ў школах. У Мароко налічваецца 424 настаўнікі для еўрапейскіх вучняў і 322 настаўнікі для еўрапейскіх дзяўчынак, а для арабскіх усяго 180 настаўнікаў для хлопчыкаў і 60 для арабскіх дзяўчынак.

І ў гэтай колькасці школ (зусім малой) для дзяўчынак іх вучаць пераважна швейнай і кулінарнай справе, а менш чытаць і пісаць...

Настаўнікі б'юць дзяцей і выкідаюць іх з класаў. Карай служыць тое, што вучняў прымушаюць выконваць усе цяжкія, чорныя работы». (З пісьма мароканскага настаўніка вучню Л. Фішбейну.)

«Зараз ў нас канікулы, якія працягнуцца да 10 верасня. Перад канікуламі мы 4 дні баставалі. Нашы запатрабаванні: гарачыя снеданні, дарэмныя навучальныя прылады, зварот 94 звоrange настаўнікаў. Пасля канікулаў мы будзем прадаўжаць нашую забастоўку». (З піонерскага пісьма з Германіі.)

«Зараз я табе напішу, што здарылася ў апошні час ў Дрэздэне. Важней за ўсё тое, што ў Дрэздэне выступаў у час перавыбарчай кампаніі т. Тэльман. Восемдзесят тысяч чалавек прышлі слухаць правадыра, восемдзесят тысяч чалавек бурна апладыравалі нашаму правадыру любімым нашым класавым выклікам «Рот-Фронт». Восемдзесят тысяч людзей спявалі Інтэрнацыянал. Жыхары Дрэздэна ніколі яшчэ не бачылі такога рэволюцыйнага мітынга». (З пісьма з Германіі 1932 г.)

«У сакавіку раз'юшаная японская буржуазія напала на федэрацыю пролетарскіх культурных арганізацый Японіі, якая кіруе пролетарскім культурным рухам у Японіі.

Многа вядомых рэволюцыянераў арыштоўваюцца і журналы забараняюцца. Таксама забаронены з'езды і сходы культурных арганізацый, забаронены гурткі, якія працуюць пад кіраўніцтвам пролетарскіх культурных арганізацый. Гэта першыя крокі для падрыхтоўкі нападу на СССР.

Буржуазія ўмацоўвае сваю ўладу рукамі фашыстаў і імперыялістычнымі войнамі за каланізацыю Манчжурыі і раздзел Кітая». (17 сяброў нелегальнага эсперанцкага гуртка ў Японіі.)

«Наша Чырвоная армія бесперапынна расце. Зараз яна налічвае каля двух тысяч барацьбітоў. Апрача таго ў нас існуе Чырвоная сялянская абаронная армія, якая налічвае каля мільёна людзей. Яна з'яўляецца пагрозай для капіталістаў і памешчыкаў». (З пісьма з Савецкага Кітая.)

«Я яшчэ не ведаю, ці могуць піонеры 19 квартала (Парыж) пераправіць Вам чакаемы Вамі чырвоны сцяг. Але я моцна абяцаю, што якім бы ні было шляхам, Вы абавязкова атрымаеце сцяг для перадачы гомельскай яўрэйскай школе імя Леніна. Я пастараюся прыехаць і прысутнічаць на Вашым юбілеі, і думаю, што мая першая паездка ў Вашу краіну не будзе апошняй».

(З пісьма французскага настаўніка ў сувязі з запрашэннем яго на 5-гадовы юбілей эсперанцкай арганізацыі.)

З прыведзеных пісьмаў ужо відаць характар нашай перапіскі.

## Як выкарыстоўваюцца нашы пісьмы заграніцай

У вышэйпрыведзеным рапарце нашы юныя эсперанты пішуць:

«У камуністычнай эсперанцкай газеце надрукавана 5 нашых пісьмаў; у японскім друку адно пісьмо, таксама ў іншых газетах...». («Юнгер Ленінец».)

Апрача гэтага нашы пісьмы зачытваюцца на мітынгах і сходах рабочых. Яны перадаюцца з рук у рукі, вывешваюцца на выстаўках і т. д. Аб гэтым сведчаць прысланыя фота-карціны выставак.

## Якім-жа чынам выкарыстоўваюцца заграпічныя пісьмы ў нас?

Дадзім слова нашым вучням.

«... З атрыманых пісем, фота-карцін і журналаў мы абсталявалі 6 выставак. З гэтага ліку 4 выстаўкі для Ўсебеларускага злёту настаўнікаў-ударнікаў і адна для гомельскага гарадскога музея». («Юнгер Ленінец».)

Значная частка атрыманых пісьмаў надрукована ў шматтыражцы швейнай фабрыкі «Комінтэрн», якая шэфствуе над намі.

Пісьмы друкаваліся і ў іншых шматтыражках. у газеце «Палеская праўда», у цэнтральных піонерскіх газетах—«Юнгер Ленінец» і «Піонер Беларусі». Некаторыя пісьмы зачытваюцца на бацькоўскіх і вучнёўскіх сходах, на мітынгах, сходах рабочых фабрыкі «Комінтэрн» і перадаюцца па радыё.

Наша ячэйка заграніцай набыла значную папулярнасць. Вельмі часта заграпічныя піонеры і вучні просяць нас, каб мы наладзілі сувязь рабочых той ці іншай фабрыкі з рабочымі адпаведных прафесій у Гомелі. Напрыклад, нашы вучні атрымалі пісьмо ад балгарскіх краўцоў г. Сафіі, якія просяць гэтае пісьмо перадаць рабочым швейнай фабрыкі «Комінтэрн». Пісьмо было перадана і надрукована ў шматтыражцы.

Атрыманыя пісьмы даюць магчымасць трымаць вучняў у курсе важнейшых палітычных падзей заграніцай. Некаторыя пісьмы выкарыстоўваюцца на лекцыях геаграфіі, гісторыі; асабліва шырока яны выкарыстоўваюцца выкладчыкам гісторыі на розных вечарах.

Пераход некаторых капіталістычных краін ад замаскаванай да адкрытай фашысцкай дыктатуры не мог не адбіцца на нашай сувязі з рабочымі і іх дзецьмі гэтых краін. Калі ў Германіі да ўлады прышлі

фон-Папен, а потым фон-Шлейхер, наша перапіска стала затрудняцца. Пісьмы з СССР сталі небяспечнымі для адрасата, а таму наша перапіска праходзіць зараз праз іншыя буржуазныя краіны, напрыклад Англію, Францыю, Галандыю.

Перапіска з нямецкімі таварышамі бадай зусім перарываецца пасля прыходу да ўлады Гітлера. Тое самае адбылося з нашай сувяззю з аўстрыйскімі таварышамі, а зараз гэта адбываецца з нашай карэспандэнцыяй з таварышамі Іспаніі.

Безумоўна, на нашу перапіску ўсё больш уплывае растучы крызіс, бо значная частка нашых заграпічных таварышоў—беспрацоўныя і вельмі часта не маюць сродкаў на аплату марак. Нашыя вучні пасылаюць ім эсперанцкую літаратуру, ілюстраваныя журналы («СССР на стройке»), фота-карціны і інш.

Сувязь з заграпічнымі рабочымі і іх дзецьмі выхоўвае ў нашых дзяцей любоў да рабочых розных нацый і краін. Гэтая сувязь дае нам магчымасць пашыраць веды вучняў па геаграфіі, гісторыі, грамадазнаўству, мове і іншых дысцыплінах.

У снежні м-цы гэтага года наша школа святкуе пяцігадовы юбілей інтэрнацыянальнай сувязі. За гэтыя пяць год нашы вучні напісалі звыш трох тысяч пісьмаў і больш двух тысяч атрымалі з заграніцы. Апрача пісьмаў атрымана шмат фота-карцін, заграпічных журналаў і т. д. На гэты юбілей запрошаны некаторыя заграпічныя рабочыя і інтэлігенты, з якімі мы трымаем сувязь».

Вопыт гомельскай школы імя Леніна ў галіне інтэрнацыянальнага выхавання можа і павінен быць перанесен у іншыя школы СССР.

### Пісьмо з Балгарыі ад настаўнікаў і вучняў IV класа

«Дарагія таварышы!

Мы з'яўляемся вучнямі IV класа і жадаем перапісвацца з Вамі.

Жывём мы ў маленькай вёсцы, якая налічвае каля 3000 жыхароў. На ўсёй вёсцы знаходзяцца два школьныя будынкі.

Нашу вёску і шмат іншых мясцін нашага раёна ахапіла эпідэмія малярыі. Ёсць шмат выпадкаў смерці, асабліва сярод вучняў.

На ўсім раёне налічваецца 2—3 дактары; гэта зусім недастаткова! Жыхары бедныя і не маюць грошай, каб аплаціць лячэнне, а без грошай дактары адмаўляюцца дапамагаць хворым.

Наша краіна рыхтуецца да вайны. Не так даўно ваенная камісія прыехала ў нашу вёску і забрала ўсё, што прыгодна для вайны: людзей, жывёлу і павозкі.

Мы не жадаем вайны! Гэтага таксама не жадаюць нашы браты і бацькі. Толькі багатыя хочуць вайны, але-ж пасылаюць ваяваць рабочых і сялян.

На гэтым мы заканчваем наша маленькае пісьмо.

Мы ўпэўнены, што Вы нам дашлеце падрабязны адказ аб савецкай школе.

З таварыскім прывітаннем!».

### Пісьмо з Кітая

«Дарагія таварышы!

Ваша пісьмо мяне вельмі зацікавіла і я паказаў яго сваім таварышам. Яны жадалі яшчэ больш даведацца аб жыцці ў савецкай краіне. Я жыву ў горадзе Сучуо (правінцыя Кіансу). Працую на телеграфнай станцыі ў горадзе Сіенуміао. Праз нашую правінцыю праходзіць чыгунка з Шанхая ў Нанкін. Каля ракі Ян-Цзы знаходзіцца горад, дзе я працую. У на-

шай правінцыі пануе Гаміндanaўская ўлада. Розныя нацыянальнасці— у тым ліку і кітайскія—прыгнечаны ёю. Тут ёсць адна школа, якая выпускае людзей з ніжэйшай адукацыяй. Культурнае развіццё насельніцтва вельмі нізкае. У нашай краіне ёсць піонерская арганізацыя; асабліва шмат піонераў у паўднёвым Кітаі.

Вы шмат чулі аб рэволюцыйным руху ў нашай краіне. Совецкія раёны Кітая са сваёй гераічнай Чырвонай арміяй упарта змагаюцца з Гаміндаnaўскай арміяй і заўсёды першая перамагае другую.

У нашай краіне пашыраецца эсперанцкі рух. У горадзе Шанхаі ёсць саюз эсперантаў, які дапамагае рэволюцыйнаму руху.

Прывітанне!

*Ваш таварыш ЗЕНСТО*".

## Перапіска паміж вучнямі

### Пісьмо з Бельгіі вучня-піонера Генрыко да вучня 5 класа Гомельскай школы імені Леніна—М. Шурына

«Дарагі таварыш!

З вялікім задавальненнем я атрымаў твой брацкі адказ. А ўсё-ж-такі чаму ты не адказаў на мае запытанні: як вывучаюць у Вас эсперанто?

Нядаўна я атрымаў ілюстраваную картку ад твайго настаўніка і быў гэтаму вельмі рад.

Становішча наша не змяняецца. Рабочыя і іх дзеці жывуць значна горш, чым да крызіса. Фабрыканты выкідаюць са сваіх прадпрыемстваў чырвоных рабочых і замест іх ставяць фашыстаў.

Некалькі запытанняў: як ты жывеш? Як тваё здароўе? Ці ёсць у цябе родзічы? Як жывуць у Вашай краіне? Калі ты мне дашлеш сваю фатаграфію?

Я спадзяюся, што ты мне на гэтыя запытанні адкажаш.

Канчаю сваё пісьмо. Прымі маё гарачае таварыскае прывітанне.

*Твой друг ГЕНРЫКО*".

### Адказ вучня 5 класа гомельскай яўрэйскай школы імені Леніна т. Шурына свайму незнаёмцу Генрыко

«Дарагі таварыш!

З радасцю атрымаў твой брацкі адказ. Адказваю на твае запытанні.

У нашай краіне многія вывучаюць мову эсперанто: спачатку вучаць азбуку, потым цэлыя словы, затым па-крысе чытаць, пісаць і т. д. Дзякую, што ты перадаў мой адрас сваім таварышам.

Некалькі слоў аб нашай ячэйцы юных прыхільнікаў па міжнароднай сувязі.

18 кастрычніка ў нашай школе адбыўся вечар, на якім эсперантысты зачытвалі пісьмы, якія атрыманы ад рабочых і іх дзяцей з заграніцы. Я таксама зачытаў тваё пісьмо. 25 снежня ў нас адбудзецца святкаванне 5-гадовага юбілея ячэйкі ЮДМС. На юбілей прыедзе таварыш з Францыі. Парыжскія піонеры рыхтуюць для нас чырвоны сцяг. Гэты сцяг атрымае самы лепшы клас нашай школы.

За 5 год мы паслалі больш трох тысяч пісьмаў і атрымалі больш двух тысяч. Гэта не дзіва, бо ў нас усе вучні гэтым цікавяцца.

Аб юбілеі напішу табе потым, калі ён адбудзецца. Некалькі слоў аб сабе. Я вучуся ў школе Леніна. Амаль па ўсіх прадметах атрымліваю адзнаку «добра». Люблю наведваць кіно, цырк, тэатр, і т. д. Кіно я наведваю адзін раз у тыдзень.

На твае запытанне ці маю я родзічаў, адказваю. Я жыву нядрэнна. Мой бацька зарабляе добра і купляе мне ўсё, што трэба. Маці таксама працуе, а малодшая сястра ходзіць у дзіцячы сад. У нашай краіне рабочыя і іх дзеці жывуць не так, як ў Вас,—ў нас яны жывуць значна лепш. У нас няма беспрацоўных, іх не эксплаатуюць і яны самі сабе гаспадары. Фатаграфію я табе высылаю ў гэтым пісьме.

На гэтым сваё пісьмо заканчваю.

Чакаю з нецярпеннем хуткага адказу. Прашу цябе перадай мой адрас дзецям рабочых Вашай школы.

*Твой таварыш М. ШУРЫН*".

Стакгольм, 29 сакавіка 1934 г.

«Дарагія дзеці савецкай краіны!

Дасылаю Вам брацкае прывітанне са Швецыі. Лічу, што моладзь Першай Пролетарскай Краіны цікавіцца жыццём шведскіх дзяцей і становішчам шведскіх школ.

Швецыя, як Вам вядома, з'яўляецца капіталістычнай краінай. Усе багацці: вадапады, лясы, фабрыкі, шахты, чыгункі і т. д. належаць маленькай кучцы людзей. Значная колькасць насельніцтва нічога не мае.

Нехапіла-б паперы, каб Вам усё апісаць, а таму я сёння Вам раскажу, як капіталісты скарыстоўваюць народную школу для сваіх мэт, што вучаць ў шведскіх народных школах.

У шведскіх народных школах (школы для дзяцей рабочых і беднаты) вучаць чытаць і пісаць на шведскай мове. З першага-ж дня ўкараняюць у памяці маленькіх дзяцей, што капіталісты з'яўляюцца божымі пасланнікамі, а капітал нечым святым. Кожны дзень навучаюць дзяцей аб іх абавязку абараняць бацькаўшчыну (гэта значыць шведскіх капіталістаў).

Гісторыя Швецыі прадстаўляецца, як гісторыя набожных, чэсных цароў, якія аўладалі Швецыяй.

Згодна гэтай гісторыі шведскія цары былі вялікімі героямі, а войны, якія яны вялі,—былі святымі войнамі. У школах вучаць дзяцей, што нельга рабіць паўстанняў і рэволюцый, а таму Вам, дарагія вучні, павінна быць ясна, чаму капіталісты так моцна эксплаатуюць рабочых. У нас існуюць таксама вышэйшыя школы, але яны толькі для багатых: бедныя вучні і дзеці рабочых туды паступіць не могуць.

Мае дарагія юныя сябры першай Рабочай Краіны! Я мала пісаў аб шведскіх народных школах. Калі Вы пажадаеце, то я магу Вам у другім пісьме напісаць больш аб жыцці нашых дзяцей.

Магчыма, што цяжкім з'яўляецца шлях пролетарыята Швецыі да яго асвабаджэння. Але пролетарыят Швецыі таксама прыдзе да ўлады і тады ў нас будзе Шведская Соцыялістычная Рэспубліка.

Спадзяюся, што Масква стане і нашай сталіцай, а мы яшчэ дачакаемся Сусветнага Саюза Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Мы заклікаем усіх да работы на карысць Пролетарскай Сусветнай Рэволюцыі.

*З брацкім прывітаннем!*
*Ваш брат Э. А.*"

Г. Поні, 14 лістапада, 1934 года.

«Дарагі друг і калега!

Ноч... Я і мая жонка (мой друг і саўдзельнік у барацьбе) сядзім каля апарата і прымаем Маскву.

Як добра слухаць наш дарагі Інтэрнацыянал, быць ад Вас далёка і адчуваць Вас так блізка... Мы тут пад ярмом капітала, а Вы ў свабоднай краіне Советаў. Мы рыхтуемся да прадстаячых класавых баёў. Мы будзем змагацца да апошняй каплі крыві, да апошняга дыхання. Па прыкладу нашых іспанскіх братоў памром са зброяй у руках для таго, каб нашыя таварышы змаглі свабодна дыхаць вольным паветрам соцыялізма. Мы гатовы памерці ў барацьбе за справу і пабеду пролетарыята.

Перад смерцю на барыкадах мая апошняя думка будзе накіравана да цябе, Пролетарская Краіна, маяк пролетарыята. Спакойна і без страху мы бачым бушуючае заўтра.

Рабочыя Францыі заключылі адзіны фронт. 11 лістапада сто тысяч парыжскіх рабочых дэманстравалі сваю гатоўнасць да барацьбы супроць фашызма.

Я працую настаўнікам у маленькай вёсцы. Гэтая вёска знаходзіцца недалёка ад гор. Поні, дзе працуе мая жонка. Я працую ў змешанай школе. Навучаю вучняў без прылад. З года ў год памяншаецца нашая зарплата на карысць выдаткаў для падрыхтоўкі вайны.

Фашысцкая краіна ўсё больш звужае нашы грамадзянскія правы.

Рэакцыянеры, кулакі горада і вёскі знімаюць з работы настаўнікаў і комуністаў. Яны натраўліваюць на іх бацькоў, дамагаюцца, каб не пасылаць сваіх дзяцей да рэволюцыйных настаўнікаў.

З чырвоным прывітаннем П.».

## Саюз эсперантыстаў совецкіх рэспублік

### (Усесаюзная асацыяцыя прыхільнікаў міжнароднай сувязі і міжнароднай мовы)

11 снежня 1934 года.

Ячэйцы СЭСР юных эсперантыстаў пры школе імені Леніна ў Гомелі.

Цэнтральны камітэт Саюза эсперантаў Совецкіх Рэспублік вітае юных эсперантыстаў, міжрабсувязістаў, якія адзначаюць пяцігоддзе сваёй ячэйкі.

Юныя таварышы!

Пяцігадовы юбілей вашай арганізацыі—факт, які заслугоўвае ўвагі ўсяго Саюза. Ваш вопыт павінен быць перадан іншым школам, піонератрадам іншых гарадоў. За рад гадоў сваёй работы Вы паказалі сябе дружнай, згуртаванай арганізацыяй, якая ўмела паставіла міжрабсувязь на службу інтэрнацыянальнаму выхаванню ў школе і абароне краіны Советаў. Ваша ячэйка выхавала цэлы рад актывістаў, разгарнуўшых інтэрнацыянальную работу і за сценамі школы. Сярод Вас ёсць карэспандэнты, якія заслугоўваюць пахвал, артыкулы і пісьмы якіх з асаблівай цікавасцю чыталіся рабочымі і дзецьмі капіталістычных краін і друкаваліся ў зарубежным рабочым друку.

ЦК СЭСР упэўнен, што ў дзень свайго юбілея Вы, падводзячы багатыя вынікі сваёй работы, зможаце ўскрыць слабыя месцы ў ёй, каб у будучым выйсці яшчэ больш моцнымі і ўзняць якасць міжрабсувязі і ўсёй работы ячэйкі. Вы прыложыце дастаткова намаганняў, каб кожны ячэйкавец добра аўладаў мовай эсперанто.

Разумеючы, што член СЭСР не можа быць поўнацэнным міжнароднікам, калі ён не звязвае сваю інтэрнацыянальна-выхаваўчую і масавую

работу з вытворча-вучэбнай, калі ён не ўдарнік і не «выдатнік», Вы разгарніце ў радах сваёй ячэйкі вучэбна-вытворчае спаборніцтва і ўдарніцтва. Выконваючы ўказанні нашага любімага правадыра т. Сталіна і партыі Вы разгарніце яшчэ больш актыўную дапамогу школе ў справе ажыццяўлення дырэктыў ЦК ВКП(б) аб выкладанні геаграфіі і гісторыі. Эсперанто ў Вашых руках павінна стаць магутным сродкам для атрымання з заграніцы самых разнастайных, наглядных, ілюстрацыйных і фактычных матэрыялаў, якія паслужаць для ажыўлення ўрокаў па гэтаму прадмету.

ЦК СЭСР зусім упэўнен, што гэтыя задачы Вы выканаеце і зможаце выканаць так, каб наш вопыт стаў узорам для іншых.

За вашу прыкладную работу ЦК СЭСР прэміруе Вашу ячэйку эсперанцкай бібліятэчкай.

Няхай жывуць юныя піонеры і юныя эсперантысты школы імя Леніна! Трымайце высока сцяг Ленінскага інтэрнацыяналізма!

*Генеральны сакратар ЦК СЭСР—ДРЭЗЕН.*

*Загадчык школьна-педагагічным аддзелам—БАРЫСЛАЎСКІ.*

*Загадчык аддзелам па рабоце на месцах—ІНПЭТАЎ*

«Дарагія таварышы!

Я дзякую за Вашы цікавыя пісьмы. Хутка я прышлю Вам калектыўнае пісьмо эсперантыстаў горада Гарова (Англія—недалёка ад Лондана). Усе эсперантысты горада вітаюць Вас—эсперантыстаў гомельскай яўрэйскай школы імя Леніна і жадаюць Вам яшчэ лепш мацаваць інтэрнацыянальную сувязь. Наша арганізацыя эсперантыстаў пасылае Вам маленькі эсперантысцкі сцяг у сувязі з пяцігадовым юбілеем існавання ячэйкі «Прыхільнікаў міжнароднай сувязі». Мы жадаем Вам далейшых поспехаў у эсперанцкім руху і спадзяемся, што сцяг уздыме энтузіязм рабочых і дзяцей Беларусі і пашырыць перапіску праз эсперантыстаў.

Няхай жыве пралетарскі інтэрнацыяналізм!

Брацкі салют!

*ГАРРЫ МІЛЬСОН*

Сакратар эсперанцкай арганізацыі гор. Гарова.»



# ЗАГАД № 60
## па Народнаму камісарыяту асветы БССР

Менск, ад 9/I 1935 г.

Адзначаю поспехі ў галіне інтэрнацыянальна-класавага выхавання ў гомельскай яўрэйскай школе імя Леніна.

Школа звязана з рабочымі і піонерамі 29 замежных краін. За 5 год міжнароднай сувязі вучнямі школы паслана звыш 3-х тысяч пісьмаў. Школа атрымала 2 тысячы пісьмаў, шмат фотаздымкаў, літаратуры і іншых матэрыялаў, якія характарызуюць барацьбу рабочых і іх дзяцей у капіталістычных дзяржавах.

З мэтай перадачы вопыту прапаную калектыву школы імя Леніна прадставіць матэрыял у Інстытут школьнай педагогікі для выдання брашуры аб рабоце ДМС у названай школе.

Прэміраваць школу за пастаноўку інтэрнацыянальна-класавага выхавання ў суме 1 000 руб.

Асабліва адзначаю работу кіраўніка гурткоў эсперанто тав. **Берына**.

Камандыраваць для ўдзелу ў святкаванні юбілея ДМС тав. **Барышчэўскую**.

*Нам. наркома асветы БССР ЛЯШЧЫНСКІ*

*М. Зарэцкі*

# Узняць якасць вучнёўскіх ведаў

Правільная ацэнка ведаў вучняў у нашай школе—гэта важнейшы фактар павышэння якасці работы вучняў. Для нашага вучня тыповым будзе такое разважанне: «Калі я ведаю, што ведаю мала, я дамагуся таго, каб ведаць больш» (Ленін). У анкеце, якая была праведзена сярод вучняў, мы атрымалі вялікую колькасць адказаў, указваючых як трэба рабіць учот для таго, каб ён даваў правільны малюнак ведаў, каб не было падказвання і перапісвання. Пераважная большасць нашых вучняў стаіць за тое, каб ацэнка іх ведаў была правільная, бо яны спаборнічаюць у вучобе і хочуць ведаць чаго яны дасягнулі.

Ліберальныя буржуазныя педагогі прапаноўвалі і зараз прапануюць замяніць ацэнку ведаў вучняў характарыстыкай. Але яны не разумеюць, што і тое і другое—гэта толькі два бакі, дзве часткі ўчоту работы вучняў у цэлым.

Але адна толькі характарыстыка ў лепшым выпадку раскажа нам аб тым, як вучань працуе, які агульны ўзровень яго ведаў і да т. п., але не ўскрые нам канкрэтных дасягненняў па раздзелах і тэмах праграм. Толькі ацэнка ўскрые апошняе, але яна не вызначыць прычын і акалічнасцей, якія маглі-б садзейнічаць лепшаму аўладанню вучнямі данымі ведамі. Вось чаму ў пастанове ЦК ВКП(б) ад 25 жніўня 1932 г. гаворыцца аб адзінстве ўчоту ведаў і характарыстыцы паспяховасці вучняў. Неабходна ведаць, якія веды кожнага вучня па праграмах і чаму паспяховасць кожнага вучня іменна такая. Мы тут гаворым толькі аб учоце ведаў, які, згодна памянёнай пастанове ЦК ВКП(б), павінен быць прыняты за аснову ўчоту работы ў школе.

Вядома, што ў нашай школе ўчот ведаў вучняў яшчэ не знаходзіцца на належнай вышыні. Скрозь і ўсюды вучань з найлепшай атэстацыяй, перайшоўшы ў другую школу, атрымлівае толькі здавальняючыя адзнакі. Праверка ўзроўню вучнёўскіх ведаў, праводзімая час ад часу органамі Наркомасветы і навуковымі інстытутамі, дзе малюнак іншы, чым розныя зводкі школьных даных. Якія-ж асноўныя прычыны нячоткасці ацэнкі вучнёўскіх ведаў? Важнейшыя з іх наступныя:

1) У большасці школ ацэнка ведаў вытвараецца ў залежнасці ад паспяховасці данага класа ў цэлым. Такім парадкам, адзнака выражае не той ці іншы ўзровень ведаў, а хутчэй месца таго ці іншага вучня ў класе. Так, ацэнка «вельмі добра» ў такім разе азначае, што ў даным класе даны вучань адносіцца да лепшага сектара, але якія яго сапраўдныя веды ў параўнанні з праграмай, яшчэ невядома. Ці вялікую каштоўнасць мае такі ўчот? Ясна, што значымасць яго ў лепшым выпадку не выходзіць за межы данага класа. Вось чаму і атрымліваецца дзіўная з'ява: у лепшых школах і класах маем, прыкладна, тое-ж размеркаванне адзнак, што і ў радавых або нават і адстаючых па ўмовах работы школах. Такі падыход замест таго, каб ускрыць слабыя месцы, скрывае іх.

2) Вельмі многія выкладчыкі яшчэ не засвоілі сабе таго, што ацэнка ведаў і характарыстыка пасляховасці—гэта не адно і тое-ж, хоць яны і маюць цяснейшую сувязь паміж сабой. У залежнасці ад здольнасцей вучняў, ад соцыяльна-бытавых умоў і да т. п. ацэньваюцца вышэй ці ніжэй аднолькавыя веды вучняў. Але дыферэнцыяваны падыход не заключаецца ў гэтым. Дыферэнцыяваны падыход да вучня—гэта высвятленне індывідуальных асаблівасцей у рабоце, асабовых, бытавых і соцыяльных прычын (цяжкія бытавыя ўмовы, або, наадварот, вучэбная дапамога члена сям'і і т. п.). Усё гэта, аднак, павінна знайсці сваё адлюстраванне не ў ацэнцы ведаў, а ў характарыстыцы. Ацэнка ведаў—гэта рапарт дзяржаве аб «стане прадукцыі» школы. Ён павінен поўнасцю адпавядаць сапраўднасці.

3) Наступнае, што неабходна адзначыць—гэта недастаткова чоткая арганізацыя ўчота. У мінулым годзе ў адной школе трое вучняў прадставілі выкладчыку рысавання адзін і той-жа сшытак—і ён усім выставіў адзнакі і пры тым розныя. Аб гэтым паведамілі другія вучні, якія шчыра зацікаўлены ў ведах і змагаюцца за правільна арганізаваны ўчот. У сваіх адказах адны вучні абараняюць пісьмовы ўчот таму, што пры жывым падказваюць, другія-ж стаяць за жывы ўчот таму, што пры пісьмовым падглядаюць адзін у аднаго. Безумоўна, гэта не ўсеагульная з'ява, але і не рэдкае выключэнне. Трэба ўнікаць бюракратызма, непатрэбных фармальнасцей, але не трэба ставіць дзяцей у такія ўмовы, калі хочаш-няхочаш «саграшыш». Вось цікавы адказ вучня шостага класа:

«У час таго, як вучні будуць пісаць кантрольную работу, педагог не павінен сядзець за сталом, а павінен хадзіць па класу і глядзець на вучняў, ато вучні, хоць і піонеры, але ў адносінах пісання кантрольных не зусім чэсны».

Наіўны, але ў асноўным правільны адказ. Учот на ўроку, прынамсі пачынаючы з трэцяга класа, мэтазгодна праводзіць ля дошкі, ля карты, ля століка і т. д.

Пісьмовыя кантрольныя работы трэба даваць па двух адназначных формах праз кожны рад (апрача тых выпадкаў, дзе гэтага рабіць нельга, як, напрыклад, пры дыктоўцы). Трэба, безумоўна, улічваць узросныя асаблівасці вучняў розных класаў, але не ператвараць учот у гульню.

4) Вельмі дрэнна ў нас стаіць справа з «накапленнем» адзнак. Аналіз класных журналаў паказвае, што адзнакі па першай чвэрці бягучага навучальнага года ў многіх выпадках былі выстаўлены на аснове аднаго прыватнага апытвання. Многія выкладчыкі, каб не загружаць сябе, зусім не практыкуюць пісьмовых кантрольных работ. Але пры двух-трох гадзінах у шасцідзёнку, г. зн., пры 20—30 уроках за чвэрць, можна кожнага вучня больш або менш грунтоўна апытаць толькі адзін раз. Ці маем мы права паведамляць бацькоў і дзяржаўныя органы аб дасягненнях і прабелах у ведах вучняў на аснове такіх выпадковых даных?

Не і не. Вучні рэзка выказваюцца супроць такога метада ацэнкі за чвэрць. На наш погляд трэба пры двух-трох гадзінах у шасцідзёнку па прадмету мець за чвэрць у сярэднім не менш трох-чатырох разавых адзнак, для чаго мэтазгодна побач з апросам, назіраннем за работай, ацэнкай сшыткаў ужываць і «прыватныя кантрольныя работы» ў выглядзе аднаго-двух пытанняў па матэрыялу папярэдняга ўрока, на якія вучні адказваюць на працягу 10—15 мінут. Аб гэтых прыватных кантрольных работах вучні загадзя не апавяшчаюцца і да іх спецыяльна не рыхтуюцца. Аўтар гэтага артыкула з поспехам ужывае гэты спосаб у першай школе Наркомасветы (Масква). Усім вядома, што такія прадметы як мова і матэматыка, па якіх кантрольныя работы праводзяцца часцей, чым па ін-

шых прадметах, характарызуюцца і больш правільнай ацэнкай ведаў і лепшай работай вучняў. Чоткі, роўнамерны, а не «кампанейскі» (перад чвэрцю) кантроль лепш стымуліруе вучняў да работы.

5) Далёка не аднолькава практыка ў сэнсе ацэнкі бакоў работы, ідучых па лініі іншых прадметаў. Так, адны выкладчыкі асобна ацэньваюць граматнасць пры ўчоце ведання дысцыпліны (апрача мовы), другія-ж уключаюць ацэнку граматнасці кантрольнай работы па гісторыі, напрыклад, або біялогіі, у ацэнку па данаму прадмету. Відавочна, што для таго, каб ведаць, што лячыць, не трэба блытаць хвароб. На наш погляд неабходна матэматычную і моўную граматнасць адзначаць асобна ад ацэнкі данага прадмета, прычым адпаведныя выкладчыкі (па мове і матэматыцы) улічаць гэтыя заўвагі. Іх будзе не так многа, бо па звестках выкладчыкаў мовы і матэматыкі будуць прыведзены толькі найбольш яркія выпадкі, патрабуючыя спецыяльнай дапамогі.

Мы разгледзелі важнейшыя арганізацыйна-метадычныя ўмовы правільнага ўчоту вучнёўскіх ведаў. Другі бок справы—гэта дастаткова чоткае, але разам з тым і неграмознае раскрыццё адзнак. У апошнія часы рад школ распрацаваў прадметныя крытэрыі ацэнкі ведаў. Лепшыя з іх значна вышэй вядомых аўтароў некаторых амерыканскіх крытэрыяў. Усё-ж яны не дастатковы, бо яны не ўлічваюць асаблівасцей канкрэтнага вучэбнага матэрыялу. Сапраўды, хіба-ж усе расліны, усе краіны, усе гістарычныя падзеі і т. д. вучань павінен ведаць аднолькава? Тут ёсць якасныя адрозненні, якія трэба выявіць. Але было-б вельмі цяжкім па кожнаму пункту праграмы пісаць разгорнутыя крытэрыі. Трэба спалучаць агульныя крытэрыі (незалежна ад прадмета) з канкрэтнымі дапаўненнямі, дзе яны неабходны па пунктах праграм. Такі падыход пры праверцы яго намі аказаўся ўдалым. Мы дадзім тыя агульныя крытэрыі, да якіх мы прышлі ў рэзультаце нашай работы і эксперыментальнай праверкі ў школе, а таксама некаторыя ўзоры канкрэтных дапаўненняў да іх.

Перш чым перайсці да характарыстыкі паасобных адзнак, трэба высветліць патрабаванні да ведаў вучняў. Гэтыя патрабаванні будуць у значнай ступені рознымі адносна розных ведаў. Адна справа арфаграфічныя або лічбовыя навыкі, другая справа—уменні і навыкі па працы або ІЗО, і зусім інакш абстаіць справа з наяўнасцю паняццяў, з веданнем правіл і законаў або розных фактаў і да т. п. З прычыны абмежаванасці аб'ёму артыкула, мы спынімся толькі на трэцім, часта сустракаючымся тыпе ведаў. Апрача таго, па той-жа прычыне, абмяжуемся разглядам ацэнкі ведаў вучняў па асобнаму элементу вучэбнага матэрыялу. Гэтая ацэнка ўрэшце кладзецца ў аснову ацэнкі ведаў і па цэламу раздзелу праграмы, г. зн. вылучэнне ітогавай за чвэрць або гадавой адзнакі.

Мы патрабуем ад вучняў сістэматычных, цвёрдых і глыбокіх ведаў і ўменняў.

Колькасць уласцівасцей або прызнакаў прадмета, эпізодаў, характарызуючых падзеі, выпадкаў ужывання правіл, прыкладаў, сцвярджаючых данае становішча і т. п., характарызуе сабой аб'ём ведаў па асобнаму пункту праграмы.

Глыбіня разумення—адно з важнейшых патрабаванняў, якое мы прад'яўляем савецкаму школьніку. Ленін неаднаразова ўказваў, што нам не патрэбна зуброжка, нам не патрэбна верхаглядства. На кожным узросным узроўні мы патрабуем адпавядаючай яго развіццю глыбіні разумення. Тав. Эпштэйн у сваім артыкуле аб праверачных іспытах («ЗКП» 1934 г. № 42) зусім правільна падкрэслівае: «Пытанне перш за ўсё ў тым, наколькі вучань аўладаў сістэмай пэўных ведаў, наколькі ён сапраўды

зразумеў, засвоіў і мае магчымасць прымяніць к практыцы набытыя ім у школе веды».

Як-жа мы можам меркаваць аб глыбіні разумення вывучанага? Адным з важнейшых прызнакаў глыбіні разумення з'яўляецца адрозненне асноўнага і менш асноўнага, якое з узростам вучняў становіцца ўсё больш і больш чоткім.

Глыбіня разумення азначаецца таксама па рознахарактарнасці праяўлення вучнем сваіх ведаў. Калі вучань можа і паказаць патрабуемае, і прывесці прыклады, і даць азначэнне, і, дзе гэта магчыма, начарціць патрабуемае і да т. п., то веды даволі глыбокія, ахапляючыя не толькі знешні бок, але і сутнасць вывучанага. Калі знешняя, фармальная змена задання затрудняе вучня, значыць і веды яго фармальныя, неглыбокія. Вось прыклады знешніх змен: 1) рашэнне таго-ж тыпу задачы, але з іншымі данымі; 2) рашэнне таго-ж тыпу задачы, але з новай фармулёўкай умовы; 3) маляванне чаго-небудзь, але са зменай адной або некалькіх частак; 4) знаходжанне мясцовасці на карце, данай у іншым павароце адносна ліста (параўнай Еўрапейскую частку СССР на карце Еўропы і на карце СССР); 5) перапісаць таблічныя даныя ў іншым распалажэнні і да т. п.

Надзвычай важным у большасці выпадкаў паказчыкам засваення вывучанага з'яўляецца ўменне прымяняць веды.

Пад прымяненнем ведаў мы разумеем, як набыццё на аснове вывучанага новых ведаў, так і скарыстанне ўжо вядомага ў практычнай дзейнасці (у грамадскай і вытворчай рабоце, у быту).

Так, веданне правіл арфаграфіі ўлічваецца на аснове ўжывання іх не толькі ў дыктоўцы, але і ў бягучых пісьмовых работах па іншых прадметах; веданне геаметрычных палажэнняў можна ўлічыць на работах па працы і т. п. Трэба, аднак, памятаць, што ўменне прымяняць веды сведчыць аб глыбіні разумення толькі ў выпадку асознанага прымянення, калі вучань умее растлумачыць чаму ён пастурае так, а не інакш. У адваротным выпадку гэта будзе муштра.

Уменне ўжываць веды вельмі часта можна ўлічваць пры дапамозе пытанняў, якія накіраваны не на самыя вывучаныя веды, а на бліжэйшы іх вынік. Мы падкрэсліваем—бліжэйшы вынік, бо ўменне зрабіць цэлы рад «шагоў мыслі» для дасягнення рэзультатаў адносіцца ўжо да агульнага разумовага развіцця. Аднак ацэнку «вельмі добра» можа атрымаць вучань і сярэдніх здольнасцей, ударнік вучобы.

Вось прыклад такога пытання. Паказваем на малюнку дзве незнаёмыя вучням мясцовасці і запытваем, дзе цяплей. Вучань павінен адказаць на аснове ацэнкі адлегласці, на якой гэтыя мясцовасці знаходзяцца ад экватара.

Непаўната і аднабаковасць можа суправаджацца або адсутнасцю часткі ведаў, прабеламі, або памылковасцю іх, або тым і іншым разам. На ацэнцы адаб'ецца: 1) колькасць памылак, 2) якасць або грубасць іх.

Да памылак блізка належаць недакладнасці, але трэба адрозніваць памылку і абмоўку (апіску). Калі па сутнасці выказванне вучня правільнае, але ў словах яно выказана не зусім правільна, то мы маем справу з недакладнасцю. Тое-ж, калі недагаворана значная дэталь. Адна вучаніца на пытанне, як будзе загадны лад ад слова «браў», сказала «вазьмі». Гэта (у пятым класе) недакладнасць, а не памылка па сутнасці ведаў па асобных ладоў. Калі прыклад недакладнасці з прычыны непаўнаты выказвання (трэці клас) «Экватар—лінія, якая праходзіць пасярэдзіне з захада на ўсход».

Абмоўкай або апіскай называем памылку, якая выпраўляецца самім вучнем нават без якога-небудзь сігнала з боку выкладчыка. Сюды-ж

адносім памылку, якая выпраўляецца па сігналу, але без усякага падказвання і паясняемую потым вучнем.

Мы разгледзелі змест вывучанага матэрыялу і знайшлі ў ім, прынамсі, тры адзнакі: аб'ём, глыбіню разумення і ступень памылковасці.

Але веды вучняў мы ацэньваем яшчэ і па форме праяўлення. Калі веды не дастаткова цвёрдыя, то вучань праяўляе іх звычайна з цяжкасцю, дрэнна звязвае адно пытанне з другім, з цяжкасцю прыпамінае завучанае, адным словам, патрабуецца дапамога настаўніка або ў выглядзе «сігнала» (здзіўлены погляд або словы «Ці так», «Не так», «Яшчэ якія»...) і т. д., або наводзячымі пытаннямі, каб вучань паказаў усё, на што ён здолен.

Звяртаем увагу на тое, што справа ідзе аб дапамозе вучню пры высвятленні яго ведаў, а не аб набыцці іх, калі гэтых ведаў у вучня да моманту ўчоту фактычна няма. Справа ідзе не аб эўрыстычным навучанні, а аб ускосных шляхах напамінання. З другога боку, нават пры адсутнасці дапамогі з боку выкладчыка вучань можа больш або менш звязна і ўпэўнена праявіць свае веды, што з'яўляецца хоць і менш важным, але ўсё-ж некаторым паказчыкам ступені засваення вучэбнага матэрыялу.

Кажучы аб самастойнасці праяўлення ведаў, мы патрабуем, каб вучань ізлагаў вывучаныя ім праграмныя веды прыкладна так, як ён ізлагае добра вядомае яму—гэта будзе вельмі добра. Калі вучань праграмны матэрыял падае горш—значыць справа не ў асаблівасцях данага вучня, а ў ступені засваення ім матэрыялу. Гэта было ўстаноўлена аўтарам і эксперыментальна.

Пры ацэнцы асобнага адказу на пытанне ў пісьмовай кантрольнай рабоце ў нас менш даных для абгаварэння, у асаблівасці аб форме праяўлення ведаў.

Пісьмовая кантрольная работа з'яўляецца менш багатай, чым назіранні на занятках і апытанне, але яна ўладае іншымі перавагамі і мы павінны яе ўжываць. Нездавальняючыя ацэнкі па пісьмовых кантрольных работах павінны абавязкова правярацца потым шляхам апытвання.

Да формы праяўлення таксама адносіцца і эканомнасць у рабоце, напрыклад: эканомная гутарка (чым лепш мы ведаем што-небудзь, тым лягчэй нам ізлажыць каротка свае веды), адсутнасць лішніх дзеянняў у разліках і пры рашэнні задач і т. п.

Наўрад ці трэба падкрэсліваць неабходнасць усіх указаных патрабаванняў. Зразумела, што пры вывучэнні вады або паветра ў малодшых класах у нас будзе іншы падыход да living разнастайнасці ведаў, глыбіні разумення, да вылучэння найбольш важнага, вядучага матэрыялу, чым пры вывучэнні «той-жа вады» ў больш старэйшым узросце. Апрача таго, і дапамога выкладчыка і ўся арганізацыя ўчоту будуць іншыя ў малодшых класах, чым у старэйшых.

На аснове сказанага дадзім характарыстыку кожнай адзнакі (якімі ў нас карыстаюцца) па ўсіх чатырох прызнаках.

**Адзнака «в. добра».** Аб'ём ведаў. Ведае як асноўнае, так і другараднае; мае шмат разнастайных прыкладаў. Глыбіня разумення. Вылучае асноўнае. Добра адказвае пры розных знешніх зменах задання. Свабодна ўжывае веды. Поўная беспамылковасць. Дакладныя фармулёўкі, даныя на занятках. Форма праяўлення. Увесь патрабуемы матэрыял падае звязна; з боку настаўніка дапускаюцца папярэднія ўказанні асноўных пунктаў (вехі). Бадай няма абмовак, апісак. Выконвае работу эканомна. Дапамога выкладчыка дапускаецца толькі ў выглядзе рэдкіх сігналаў.

**Адзнака «добра».** Ведае асноўнае і другараднае. Разнастайнасць прыкладаў. Вылучае галоўнае. Крыху затрудняецца пры знешніх зменах задання, але перасільвае іх. Бадай, без цяжкасцей выкарыстоўвае веды.

Поўная беспамылковасць. Дакладныя фармулёўкі. Падае звязна ўвесь або, бадай, увесь матэрыял. Вельмі мала абмовак і апісак. Дапамога выкладчыка дапускаецца ў выглядзе сігналаў або вельмі нязначнай дапамогі.

**Адзнака «зд.».** Ведае асноўныя элементы, хоць крыху і аднабакова. Аднолькавыя прыклады. Паказвае разуменне хоць-бы пры адной з форм выяўлення ведаў, як славеснае тлумачэнне, або шляхам малюнак і да т. п. Прымяняе веды ў прасцейшых выпадках. Беспамылковасць у асноўным вучэбным матэрыяле. Дапушчальны недакладнасці ў фармулёўках, калі па сутнасці гэтыя фармулёўкі правільныя. Са значнай цяжкасцю падае асноўны, патрабуемы матэрыял. Нярэдкі абмоўкі, апіскі. Дапамога выкладчыка выражаецца ў выглядзе раду наводзячых пытанняў.

**Адзнака «нзд».** Многа чаго не ведае з асноўнага вучэбнага матэрыялу. Дае зазубраныя фармулёўкі, не разумеючы іх. Грубыя або частыя нягрубыя памылкі па асноўнаму матэрыялу. Наводзячыя пытанні не аказваюць уплыву.

Усе гэтыя ацэнкі «в. добра», «добра» і «зд.» выстаўляюцца пры наяўнасці ўсіх указаных прызнакаў: ацэнка «нзд.» выстаўляецца пры наяўнасці хоць-бы аднаго з указаных прызнакаў. Калі па адным або двух прызнаках вучань праяўляе веды значна ніжэйшыя адзнак «в. добра» або «добра», то выстаўляецца зніжаная ацэнка.

Сапраўдныя агульныя крытэрыі павінны ўжывацца разам з канкрэтнымі ўдакладненнямі па зместу асобных праграм. Вось некаторыя прыклады такіх удакладненняў. Мы абмяжоўваемся апорнымі адзнакамі «в. добра» і «зд.», бо астатнія лёгка атрымліваюцца з параўнання гэтых двух і з учотам агульных крытэрыяў.

**1. Граматыка. IV клас. Змяненні канчаткаў прыметнікаў. Ацэнка «зд.».** Вылучыць у сказе прыметнікі. Знаходзіць назоўнікі, да якіх адносіцца даны прыметнік. Адказаць на пытанне—ад чаго залежыць канчатак прыметніка. Скланяць любы прыметнік тыпу: «чырвоны», «сіні». Назваць прыметнік у форме паказанага склону. Падабраць да назоўніка прыметнік, саставіць з ім сказ.

**Ацэнка «в. добра».** Самастойна вылучыць у любым сказе прыметнік. Самастойна падабраць да назоўніка прыметнік. Правільна іх напісаць, скласці з імі сказ у вызначаным склоне.

**2. Геаграфія. III клас. Глобус і карта паўшар'яў. Ацэнка «зд.».** Знайсці на карце паўшар'яў экватар, тропікі, палярныя кругі. Паказаць на карце паўшар'яў галоўныя краіны свету. Абвесці на карце часціны свету. Знайсці на карце паўшар'яў акіяны. Паказаць на карце паўшар'яў у якой частцы свету мы жывем.

Пры ацэнцы «в. добра» патрабуецца яшчэ: паказаць прамежкавыя краіны свету: часціны свету і акіяны паказваць і на глобусе. Паказаць прыблізна шлях Магелана, выразаныя контуры часцін свету пакласці правільна, як на паўшар'ях.

**3. Фізіка. VI клас. Броўнаў рух. Ацэнка «зд.».** Апісаць з'яву і растлумачыць яе ўдарамі малекул вады. Паясніць малюнак Броўнава руху.

**Ацэнка «в. добра».** Удакладніць тлумачэнне паказаннем на няроўнамернасць колькасці ўдараў у розныя моманты часу: ізабразіць прынцыпова правільна Броўнаў рух.

Нашы крытэрыі былі праверaны часткова ў 4 школе Краснапрэсненскага райАНА, але галоўным парадкам у 1 вопытнай школе Наркомасветы імені Горкага. Праверка паказала, што ўчот удакладнен у дастатковай ступені, хоць, безумоўна, не ператворан у зусім аб'ектыўны. Што-ж датычыцца ўжывання крытэрыяў, то пры некаторым практыкаванні выкладчык з імі ўпаўне асвайваецца.

Неабходна адзначыць яшчэ тую карысць, якую дае папулярнае азнаямленне вучняў з крытэрыямі ацэнкі. Вось характэрны факт з практыкі аўтара ў 1 вопытнай школе Наркомасветы. Пры вывучэнні спосабаў падрыхтоўкі да плаўкі руды было сказана, што для ацэнкі «зд.». непатрэбна ўменне чарціць схемы ўстановак, іх патрэбна ўмець чарціць для атрымання больш высокай ацэнкі. Пры правядзенні адпаведнай кантрольнай работы было прапанавана коратка апісаць сутнасць таго або іншага спосабу падрыхтоўкі руды, прычым указвалася: пажадана даць чарцёж схемы ўстаноўкі. Не гледзячы на некатэгарычнасць патрабавання аб чарцяжы, усе, апрача аднаго, далі чарцяжы і прытым даволі добрыя.

Вучні павінны ведаць, што ад іх патрабуецца. Гэта садзейнічае таму, што вучні свядома дабіваюцца лепшых дасягненняў, ведаючы ўвесь час на якім ўзроўні яны знаходзяцца ў сваіх намаганнях.

АД РЭДАКЦЫІ: У барацьбе з карэнным недахопам вялікую ролю адыгрывае ўчот паспяховасці вучняў. Тым не менш пастаноўка ўчоту паспяховасці ў масавай школе мае вельмі сур'ёзныя недахопы. Артыкул праф. Зарэцкага мае мэтай дапамагчы настаўніку ў справе ўдасканалення ўчоту ведаў, але ён не вырашае цалкам гэтае пытанне, асабліва ў расшыфроўцы існуючых адзнак, дзе ён падкрэслівае недастаткова цвёрдасць ведаў і ўменне прымяняць веды на практыцы. Усё-ж рэдакцыя змяшчае гэты артыкул у парадку абгаварэння і звяртаецца да настаўнікаў і дырэктароў школ прыслаць свае заўвагі і прапановы па гэтаму пытанню і падзяліцца вопытам пастаноўкі ўчоту паспяховасці ў школе.

---

*А. Яворскі*

# Складанне рабочага плана ўрока ў няпоўнай сярэдняй школе

*(На аснове вопыту работы ўзорных школ)*

Рабочы план урока з'яўляецца важным сродкам у справе арганізацыі педпрацэса. Аднак і да апошняга часу значэнне яго недаацэньваецца. Адсюль часта ў працэс правядзення ўрока ўносіцца некаторая стыхійнасць, якая прыводзіць да нерацыянальнага скарыстання вучэбнага часу, дрэннага засваення вучнямі вучэбнага матэрыялу, да паслаблення дысцыпліны і т. д.

Даны артыкул ставіць сваёй мэтай даць асноўныя правілы састаўлення рабочага плана ўрока.

Урок з'яўляецца асноўнай формай арганізацыі педпрацэса ў школе. Аб гэтым зусім яскрава сказана ў пастановах ЦК ВКП(б). Адсюль набывае вялікае значэнне яго арганізацыя і правядзенне ў такім напрамку, каб забяспечыць сістэматычнае ізлажэнне праграмнага матэрыялу рознастайнымі метадамі выкладання, каб як мага лепш рацыянальна скарыстаць вучэбны час. Усіх гэтых задач нельга выканаць без планавання педпрацэса наогул і састаўлення рабочага плана ўрока ў прыватнасці.

Аднак не трэба ператвараць рабочы план у самамэту, памятаючы аб тым, што ён з'яўляецца вынікам падрыхтоўкі настаўніка да ўрока. Практыка работы паказвае, што часта настаўнік састаўляе рабочы план, зусім не прадумаўшы асноўнай мэты ўрока, не вызначыўшы яго зместу, не ўлічыўшы прыёмаў і метадаў работы. У даным выпадку план ператвараецца ў голую схему, якая пры правядзенні заняткаў зусім не выконваецца.

## Падрыхтоўка перад састаўленнем рабочага плана

Для таго, каб унікнуць фармалізма ў састаўленні плана і правесці ўрок з найбольшай карысцю для адукацыі і выхавання дзяцей, кожны настаўнік павінен да ўрока падрыхтавацца. Падрыхтоўка заключаецца ў наступным:

1. Прагледзеўшы гадавы план і прадумаўшы ўсю тэму адпаведна праграме, настаўнік устанаўлівае змест наступнага ўрока, для якога трэба саставіць рабочы план. Зрабіўшы гэта, ён прапрацоўвае матэрыял, адпавядаючы данаму ўроку па падручніку з тым, каб улічыць яго змест і аб'ём. Пасля азнаямлення з падручнікам настаўнік абавязан паглыбіць вывучаемае пытанне шляхам чытання дадатковай літаратуры. На вялікі жаль, часта настаўнік, рыхтуючыся да ўрока, абмяжоўваецца толькі вучнёўскім падручнікам.

2. Правёўшы такую падрыхтоўку, настаўнік прыступае да фармулёўкі мэты ўрока. Мэту неабходна вызначыць вельмі яскрава і коратка. Напрыклад: а) паказаць вучням спосабы атрымання солей (хімія); б) даць разуменне дзецям аб роўнамерным і прамалінейным руху на прыкладах жыцця

і шляхам вопытаў (фізіка); в) засвоіць правілы напісання аднародных членаў сказа (мова); г) навучыць правільна трымаць напілак (праца) і т. д. Некаторыя настаўнікі мэту ўрока адзначаюць некалькімі вялікімі пунктамі, тым самым заблытваюць асноўную ўстаноўку сваёй работы. Вось прыклад дрэннай фармулёўкі мэты ўрока па гісторыі (тэма—французская рэвалюцыя):

а) Паказаць на карце Францыі, дзе адбываліся паўстанні ў час французскай рэвалюцыі; б) растлумачыць прычыны сканцэнтравання гэтых паўстанняў у Парыжы; в) узяцце Бастыліі, прычыны гэтага і значэнне для далейшай рэвалюцыі; г) становішча працоўных мас.

Зразумела, што ў такой фармулёўцы не відаць галоўнай мэты ўрока, і яна фактычна ў даным выпадку паўтарае самы змест. Настаўнік павінен памятаць, што не ва ўсіх выпадках трэба вызначаць мэту ўрока. Калі тэма ўрока супадае з мэтай урока, тады, зразумела, няма неабходнасці вызначаць яе асобна.

3. Пасля вызначэння мэты ўрока настаўнік вызначае асноўны яго змест і прадугледжвае прыёмы і метады правядзення заняткаў. Напрыклад, для правядзення ўрокаў, абазначаных вышэй пад літарамі а), б), в), г), ён можа вызначыць такія метады:

а) **Хімія.** Мэта ўрока: паказаць вучням спосабы атрымання солей.

Прыёмы і метады: паўтарэнне шляхам гутаркі з выклікам вучняў, расказ, дэманстрацыя доследу дзеяння метала або гідрата вокісу метала на розныя кіслоты, самастойны вывад вучнямі формул, атрыманых рэакцыяй, і запіс іх на дошцы. (З практыкі Урэчскай школы.)

б) **Фізіка.** Мэта ўрока. Даць разуменне дзецям аб роўнамерным і прамалінейным руху.

Настаўнік у даным выпадку можа вызначыць такія метады: расказ і гутарка, правядзенне доследу, назіранне за рухам супарта ў такарным станку. (З практыкі школ г. Менска.)

в) **Мова.** Мэта ўрока: засвоіць правілы пісьма аднародных членаў.

Вызначаюцца метады прапрацоўкі: вуснае тлумачэнне аднародных членаў, запіс на дошцы сказаў шляхам выклікаў вучняў, чытанне раду сказаў з аднароднымі членамі, выклік вучняў для самастойнага адшукання сказаў з аднароднымі членамі, запіс вывадаў у сшыткі. (З практыкі Урэчскай школы).

г) **Праца.** Мэта ўрока: навучыць правільна трымаць напілак.

Настаўнік можа ўстанавіць такія метады: вуснае тлумачэнне і адначасовы паказ як трымаць напілак, зарысоўка на дошцы позы рукі, паказ правіл трымання напілка па чарцяжу, выклік аднаго вучня для дэманстрацыі правіл трымання, калектыўнае практыкаванне ўсіх вучняў.

4. Выбар абсталявання ўрока ў залежнасці ад мэты ўрока і яго зместу. Настаўнік вызначае метады для правядзення ўрока. Вызначэнне метадаў палегчыць справу адбору і падрыхтоўкі адпаведнага абсталявання ўрока, аб чым вельмі часта забываюць у працэсе падрыхтоўкі да заняткаў. Бываюць выпадкі, калі настаўнік аб адпаведным абсталяванні заняткаў успомніць толькі тады, калі прыдзе на ўрок. У выніку гэтага працэс навучання будзе звязан з вялікай нерацыянальнай тратай часу на лішнія непатрэбныя адрывы ад сістэматычнага ізлажэння. Такім чынам, адпаведна вызначаным метадам і прыёмам правядзення заняткаў выкладчык падбірае і адпаведнае абсталяванне. Напрыклад, для правядзення ўрока па хіміі (спосабы атрымання солей) у змесце (які паказан вышэй) ён адзначае неабходнае абсталяванне: прабіркі, серная кіслата, азотная кіслата, цынк, вугальная кіслата, гідрат вокісу метала, прымус, запалкі, стойкі для прабірак, табліцы формул і т. д.

## Змест рабочага плана

Падрыхтаваўшыся па літаратуры, устанавіўшы асноўную мэту і змест урока, вызначыўшы асноўныя метады правядзення заняткаў, настаўнік прыступае да афармлення рабочага плана.

Што павінен уключаць рабочы план? На гэтае пытанне можна адказаць толькі вызначыўшы задачы, выконваемыя ім.

Па-першае, рабочы план павінен паказаць размеркаванне праграмнага матэрыялу ў часе і паслядоўнасці ізлажэння і, па-другое, зусім дакладна фіксаваць способы работы. Такім чынам, рабочы план ўрока—гэта план дзейнняў настаўніка і адначасова з гэтым план работы вучняў.

Выходзячы з гэтага, рабочы план настаўніка ўключае ўсе пытанні, звязаныя са зместам, спосабам арганізацыі заняткаў і т. д. Для канкрэтызацыі пытання аб змесце рабочага плана мы карыстаемся вопытам састаўлення рабочых планаў узорнай Урэчскай сярэдняй школы, якія мы і прыводзім ніжэй.

### Рабочы план па хіміі ў VII класе

Мэта: шляхам доследаў пазнаёміць са спосабамі атрымання солей.

**Паслядоўнасць урока.**

Час.

1. Паўтарэнне асноў, шчолачаў і кіслот шляхам гутаркі . . . . 5 м.
2. Атрыманне солі пры дзеянні на серную кіслату металам (пастаноўка доследа). . . . . . . . . . . . . 7—6 м.
   Запіс вучнямі тэорыі на дошцы
3. Правядзенне доследа для атрымання солі шляхам дзеяння вокісам медзі на азотную кіслату.
   Запіс вучнямі на дошцы ўраўнення рэакцыі.
4. Атрыманне солі шляхам пастаноўкі доследа: дзеянне едкім натрам на вугальную кіслату і медны купарос.
   Самастойны вывад вучнямі ўраўнення рэакцыі і запіс на дошцы. . . 17 м.
5. Вывад выкладчыка і паўтарэнне вучнямі: соль ёсць злучэнне, якое атрымліваецца пры замяшчэнні ў кіслаце вадарода металам. . . . . 4 м.
6. Замацаванне спосабаў атрымання солей шляхам выкліку вучняў і паўтарэння кожнага спосабу . . . . . . . . . 10 м.
7. Дача задання на дом: Верхоўскі—старонкі 101, 107, 110.

27/XII—34 г.

Выкладчык **Русаковіч**.

### Рабочы план па рускай мове ў V класе

Тэма урока: произношение и правила письма мягких согласных букв.

Ход урока — Время

1. Проверка домашнего задания (о согласных звуках) путем просмотра тетрадей и устного опроса . . . . . . . . . 10 м.
2. Проанализировать следующие слова по гласным и согласным звукам:
   ручка, трактор, протест,
   стрелочник, ударник, цыпленок. . . . . . . 10 м.
4. Повторить разбор таблицы согласных и соответствующих звонких и глухих согласных . . . . . . . . . . . 5 м.
5. Устное об'яснение мягкости согласных . . . . . . . 16 м.
   а, о, э, ы, у
   я, е, и, ю.
6. Сформулировать правило и закрепить путем вызова учеников для повторения . . . . . . . . . . . 7 м.
7. Задание на дом . . . . . . . . . . . 2 м.

26/XII—34 г.

Преподаватель **Фридман**.

Практыка работы паказвае, што рабочыя планы, прыведзеныя вышэй, значна дапамагаюць выкладчыку ў рабоце.

Улічыўшы гэты вопыт школ, а таксама выходзячы з тэарэтычных меркаванняў, кожны рабочы план урока павінен уключаць наступнае:

1. Перш за ўсё ў рабочым плане неабходна прадугледзець, калі гэта выцякае са зместу ўрока, паўтарэнне мінулага, ізлажэнне новага матэрыялу і яго замацаванне. Аднак трэба ўнікаць шаблону ў гэтым падзеле ўрока на часткі. Ёсць дрэнныя прыклады, калі выкладчык па такой структуры будуе ўсе без выключэння ўрокі. Адзін з настаўнікаў Урэчскай школы рабочыя планы састаўляў па наступнаму пастаяннаму шаблону:

1. Арганізацыя вучняў . . . . . . 2 м.
2. Паўтарэнне мінулага . . . . . . 3 м.
3. Ізлажэнне новага матэрыялу . . . . 30 м.
4. Запіс у сшыткі . . . . . . . 15 м.

Ясна, што такая планіроўка рушылася практыкай і рабочы план ператварыўся ў сухую, фармальную схему.

2. У рабочым плане трэба ізлагаць паслядоўна па асноўных этапах увесь урок з абазначэннем метадаў і прыёмаў, якія настаўнік будзе прымяняць. Гэта зусім ясна можна бачыць у вышэйпрыведзеным уроку па хіміі, дзе адзначана сем этапаў урока. Кожны з этапаў фармулюе асноўны змест заняткаў, метады іх правядзення. Напрыклад: у першым этапе ўказана, што будзе праводзіцца паўтарэнне шляхам гутаркі законаў і формул шчолачаў і кіслот. У другім—што будзе дэманстравацца дослед атрымання солі шляхам дзейнічання металам на серную кіслату.

3. Кожны з этапаў урока павінен адзначацца адпаведным для яго правядзення часам—звычайна мінутамі.

4. У рабочы план трэба ўносіць і асноўны вывад, які робіцца звычайна ў канцы ўрока.

Заносяцца таксама асноўныя практыкаванні, па якіх будзе будавацца тлумачэнне новага матэрыялу. Напрыклад, настаўнік па рускай мове (Урэчская школа) уносіць у рабочы план словы, якія ён думаў аналізаваць для выяўлення «гласных и согласных букв»:

ручка, трактор, протест,

стрелочник, ударник.

У рабочы план уключаюцца і асноўныя формулы (хімія, матэматыка), тлумачэнне якіх прадугледжана выкладчыкам. Аднак, калі настаўнік тлумачыць ход рашэння формул дакладна па падручніку, то сам працэс рашэння можа і не ўключацца ў рабочы план. У даным выпадку можна абмежавацца адзнакай у плане толькі асноўнай формулы. Уносячы ў план практыкаванні і асноўныя формулы, не трэба яго перагружаць. У выпадку перагрузкі састаўленне будзе проста непасільным для выкладчыка.

Такім чынам, рабочы план з'яўляецца дакументам, дзе ізложан кароткі змест асноўных этапаў урока з размеркаваннем іх у часе і вызначэннем метадаў правядзення заняткаў.

Адсюль відаць, што стандартнай формы для састаўлення рабочых планаў устанаўліваць не трэба. Карыстаючыся нашым прынцыпам, абгрунтаваным вопытам школ, трэба мець на ўвазе, што рабочы план па зместу і афармленню будзе мець розныя варыяцыі ў залежнасці ад узросту дзяцей, прадмета і т. д.

У практыцы школы мы яшчэ сустракаемся з фактамі, калі рабочы план па свайму зместу з'яўляецца фармальным. Яго фармалізм заклю-

чаецца ў тым, што, па-першае, настаўнік ніколі не рыхтуецца да састаўлення, па-другое, што змест плана з'яўляецца раз назаўсёды ўстаноўленым. Ніжэй прыводзім такі план урока са школ Слуцкага раёна:

### Рабочы план урока

Гісторыя. VI клас.
Тэма: Паўстанне Спартака.

#### План урока:

1. Арганізацыя класа . . . . . . 2 м.
2. Сувязь з прошлым матэрыялам . . . . 3 м.
3. Падача новага матэрыялу . . . . . 27 м.
4. Кароткі запіс урока . . . . . . 17 м.
5. Заданне на дом . . . . . . 1 м.

#### Ход урока

1. Дзе і з чаго пачалося паўстанне Спартака?
2. Заваёвы Спартака і яго дальнавіднасць.
3. Прычыны паражэння паўстання.
4. Жорсткая расправа з паўстанцамі.
5. Узнікненне новых паўстанняў і павелічэнне рабоў.
6. Паўстанне пролетарыяў з прычыны розных перабояў у хлебных раздачах.
7. Заданне на дом: прачытаць па падручніку Нікольскага § 128.

Характэрна адзначыць, што абсалютна ўсе рабочыя планы па гісторыі састаўляліся дакладна па гэтаму прыкладу. Нават размеркаванне часу на ўсіх уроках нічым не рознілася.

Недахопам вышэйпрыведзенага плана з'яўляецца тое, што ў ім не паказаны метады работы настаўніка, няма паслядоўнага ізлажэння ўрока па асобных этапах, няма асноўнага вываду, на чым павінна фіксавацца ўвага вучняў.

5. Пры афармленні рабочага плана трэба ўнікаць розных складаных форм з рознымі графамі. Дрэнным прыкладам у гэтых адносінах з'яўляецца наступная форма плана, якая яшчэ да апошніх часоў ужываецца ў некаторых школах.

| Змест урока | Метады заняткаў | Абсталяванне | Кантрольныя пытанні | Заданне на дом | Час |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Такая форма вельмі грамозна, патрабуе шмат часу для яе састаўлення. Адсюль нязручнасць для карыстання ў час правядзення ўрока. Адсюль увесь план робіцца простай фармальнасцю.

## Афармленне плана і правядзенне па ім урока

Для зручнага карыстання рабочым планам на ўроку вялікае значэнне мае яго знешняе афармленне. Калі план напісан неакуратна, ім вельмі цяжка карыстацца. Паўстае пытанне аб тым, як пісаць, як наогул афармляць рабочы план.

1. Перш за ўсё рабочы план трэба пісаць зусім коратка, уключаць у яго толькі самае неабходнае і не заграмаджаць непатрэбным матэрыялам.

2. Пажадана для зручнасці карыстання размяшчаць план толькі на адной маленькай старонцы з тым, каб можна было ахапіць яго адным поглядам. Пісаць трэба такімі літарамі, каб не трэба было чытаць нагінаючыся, што дасць мажлівасць настаўніку трымаць сябе найбольш вольна.

3. Этапы ўрока абазначаць парадкавымі нумарамі. Час у мінутах на кожны этап павінен пісацца з правага боку ліста, з тым, каб лягчэй было сачыць за выкананнем плана ў часе. Пажадана абазначаць не агульную працягласць этапа ў 5, 10, 15 мінут, а пісаць калі пачынаецца першы, другі, трэці этап і т. д. Напрыклад:

1. Праверка дамашніх заданняў . . . . . . . . . . . 9 гадз.
2. Устанаўленне сувязі з мінулым . . . . . . . . . . 9—05 „
3. Ізлажэнне новага матэрыялу . . . . . . . . . . . 9—40 „

і т. д.

Пры такім запісе часу настаўніку лёгка сачыць па гадзінніку за дакладным размеркаваннем ізлагаемага матэрыялу ў часе.

## Правядзенне ўрока па плану

Зразумела, што ўрок неабходна праводзіць па вызначанаму плану. Вопыт Урэчскай школы паказвае, што планаванне ўрока ў асноўным выконваецца. Дакладнае выкананне залежыць ад таго, наколькі настаўнік падрыхтован да ўрока, наколькі ён ведае вучняў і ўладае сваім прадметам наогул. Аднак, часта сустракаюцца такія непрадбачаныя абставіны, калі настаўнік прымушан скараціць адну частку ўрока за лік другой. У гэтым нічога дрэннага няма. Ва Ўрэчскай школе быў прыклад, калі настаўнік па прыродазнаўству ў VI класе ўстанавіў:

1. На паўтарэнне мінулага . . . . . . . . . . . . . . . 5 м.
2. Ізлажэнне новага матэрыялу . . . . . . . . . . . . 30 „
3. Замацаванне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 15 „

Але пры паўтарэнні выявілася, што дзеці слаба ведаюць мінулы ўрок. Настаўнік, выявіўшы гэта, не гледзячы на сваю планіроўку, патраціў на паўтарэнне не 5 мінут, а 10 мінут; адначасова з гэтым папярэдзіў вучняў аб тым, каб яны дома мінулы ўрок зноў паўтарылі. У такіх адступленнях дрэннага нічога няма, аднак не трэба гэтыя адступленні ператвараць у сістэму, а імкнуцца цалкам выканаць свой план.

Пажадана, каб настаўнік у часе правядзення ўрока непасрэдна звяртаўся да свайго плана толькі ў выпадках неабходнасці. Як правіла, настаўнік павінен, саставіўшы план, яго запомніць. Пры правядзенні ўрока гэта дапаможа большай упэўненасці ў рабоце, рацыянальнасці скарыстання вучэбнага часу і больш свабоднаму правядзенню заняткаў наогул.

Вельмі важным момантам у правядзенні ўрока па плану з'яўляецца паведамленне мэты і плана правядзення ўрока. Настаўнік абавязан у пачатку ўрока дакладна ізлажыць мэту ўрока і пазнаёміць вучняў з парадкам правядзення, вынікаючым з рабочага плана. Гэта будзе садзейнічаць стварэнню адпаведнай накіраванасці вучняў, адпаведнай мэтавай устаноўкі і тым самым палягчаць успрыйманне і лепшае засваенне дзецьмі вучэбнага матэрыялу.

---

*С. Раскін, Н. Лейбовіч*

# Урок па хіміі ў базавай школе НКА

У барацьбе за ажыццяўленне гістарычных пастаноў ЦК ВКП(б) школа ў 1933/34 навучальным годзе дабілася значнага палепшання якасці выкладання: узровень ведаў вучняў павысіўся ў параўнанні з 1932/33 навучальным годам. Аднак побач з гэтым мы мелі рад істотных недахопаў у выкладанні хіміі: зусім слабае ўжыванне лабараторных работ, дэманстрацый доследаў, адсутнасць сістэматычнага паўтарэння, добраякасных запісаў у сшыткі, і інш., вынікі чаго сказаліся на іспытах, на якіх вучні давалі вельмі многа блытаных і памылковых адказаў, як: «Вокіслы—гэта злучэнні металоідаў з кіслародам», «Асноўнасць кіслаты вызначаецца колькасцю атамаў вадарода», «Бром пры $n$ умовах—газ без паху і колеру. Фтор—вадкасць без паху», «Ёд—газ... не, вадкасць», і—да т. п. Гэтымі прыкладамі мы не вычарпалі ўсіх няправільных адказаў, аднак і яны сведчаць аб тым, што рад элементарных і надзвычай важных хімічных паняццяў не дайшлі як-след да вучняў.

У сваім загадзе аб выніках 1933/34 навучальнага года Бубноў піша наступнае: «В отношении преподавания химии в средней школе надо особенно подчеркнуть преобладание словесных методов с крайне слабым применением наглядных пособий, демонстрационных опытов и лабораторных работ, при чем это имеет место даже в тех школах, где необходимая химическая аппаратура и материалы имеются. Важнейшим недостатком в преподавании химии является также полное отсутствие повторения пройденных учащимися разделов химии, что неизбежно приводит к плохому закреплению химических знаний. В обследованных школах также крайне слаб контроль за химическими записями в ученических тетрадях, что оказывает безусловно отрицательное влияние на уровень и прочность знаний учащихся по химии. Помимо этого преподаватель слабо работает над тем, чтобы от конкретных химических фактов и явлений подводить учащихся к усвоению сущности химических процессов... уровень знаний учащихся по химии в 1933-34 году достигает неплохих показателей, но, принимая во внимание целый ряд отмеченных выше недостатков, его нельзя признать удовлетворительным». (Журн. «Начальная школа» № 9, 1934 г.)

Паспяховае знішчэнне ўсіх недахопаў у выкладанні хіміі, паказаных у загадзе т. БУБНОВА, дасць магчымасць у бягучым навучальным годзе значна павысіць паспяховасць вучняў.

Для распаўсюджвання вопыту Менскай базавай школы пры НКА БССР імя т. Чарвякова і для аказання тым самым пэўнай дапамогі выкладчыку хіміі ў яго рабоце, мы дадзім на старонках журнала «За камуністычнае выхаванне» метадычнае апісанне рада ўрокаў па хіміі ў гэтай школе. Пачынаем з тэмы «вокіслы, кіслоты, асновы і солі», як вельмі адказнай і найбольш цяжкай у сэнсе яе метадычна правільнай прапрацоў-

кі. Пачынаем апісанне з падтэмы «Кіслоты». Даем уводны ўрок да гэтай падтэмы—гідраты вокіслаў, падрыхтоўка да якога праводзілася па наступнай схеме:

| Дата | Змест урока | Ход урока |
|---|---|---|
| | | |

У графу «ход урока» ўключаецца наступнае:

а) паслядоўнае разгортванне зместу ўрока;

б) метады правядзення данага ўрока;

в) вызначэнне доследаў (самастойныя работы вучняў і дэманстрацыі настаўніка);

г) фармулёўкі, якія выцякаюць са зместу данага ўрока.

Тэма ўрока. Атрыманне гідратаў вокіслаў і вывучэнне іх уласцівасцей.

Змест урока: 1) Разгляданне розных вокіслаў—5 мін. (у парадку паўтарэння мінулай падтэмы—вокіслы).

2) Доследы на растварымасць розных вокіслаў у вадзе—15 мін.

3) Атрыманне гідратаў вокіслаў натрыя, кальцыя, фосфара, серы і даследванне іх растварымасці ў вадзе—15 мін.

4) Паўтарэнне пройдзенага на ўроку—10 мін.

5) Вывады—7 мін.

6) Заданне на дом—3 мін.

## Метады работы на ўроку

1) Гутарка па пройдзенаму (вокіслы).

2) Лабараторная работа.

3) Расказ з дэманстрацыяй доследаў.

## Ход урока

Для таго, каб высветліць веды вучняў і замацаваць пройдзенае на мінулым уроку, настаўнікам былі пастаўлены наступныя пытанні:

1) Што мы называем вокісламі?

2) Якімі спосабамі могуць быць атрыманы вокіслы?

3) Раскажы як мы атрымалі вокісел медзі ўскосна.

4) Напішы ўраўненне рэакцыі раскладання малахіта.

Прыводзім адказы вучняў на пастаўленыя пытанні:

1) Вокісламі мы называем злучэнні элементаў (металаў і металоідаў) з кіслародам.

2) Вокіслы могуць быць атрыманы:

а) Непасрэдна—шляхам спальвання розных элементаў у паветры (ці ў кіслародзе), напрыклад, шляхам спальвання серы, фосфара, вуглерода, натрыя, магнія і інш.

б) Ускосна—шляхам раскладання розных складаных вяшчэстваў, напрыклад, малахіта ( $Cu_2CH_2O_5$ ), з якога мы пры награванні атрымалі тры вокіслы—вокіс медзі (2 $CuO$), вуглекіслы газ—$CO_2$ і вокіс вадарода (вада—$H_2O$); або пры раскладанні мелу мы атрымалі два вокіслы—вокіс кальцыя ($CaO$) і вуглякіслы газ—$CO_2$.

3) Дослед на раскладанне малахіта ($Cu_2CH_2O_5$) мы рабілі наступным чынам: у сухую прабірку мы насыпалі крыху малахіта (такі зялёны па-

[1] Урокі праводзяцца навуковым супрацоўнікам НДІ школьнай педагогікі, выкладчыкам хіміі гэтай школы, тав. **Лейбовічам Н. М.**

рашок), прабірку з малахітам заткнулі пробкай з адводнай трубкай і ўмацавалі ў штатыў. Адводную трубку апусцілі ў шклянку з гашанай вапнай і пачалі награваць. Пры награванні мы заўважылі, што зялёны малахіт пачаў чарнець, на сценках прабіркі паявіліся кропелькі вады, а вапенная вада памутнела.

4) Пры награванні малахіт раскладаецца на тры вокіслы, так:



$$Cu_2CH_2O_5 = 2CuO + CO_2 + H_2O.$$

Пасля атрымання настаўнікам шляхам апытвання вучняў даных вышэй адказаў, ён коратка высвятляе мэту ўрока і дае тлумачэнне да самастойнай работы вучняў (лабараторнай работы). «На мінулых уроках мы знаёміліся са спосабамі атрымання розных вокіслаў, а зараз пяройдзем да вывучэння ўласцівасцей некаторых з іх. Перш за ўсё азнаёмімся з іх знешнім выглядам.

У вас на століках прыгатаваны ў прабірках вокіслы. Разгледзьце іх і запішыце знешні выгляд і формулы ў сшыткі [1]. Пасля гэтага наліце ў кожную прабірку з вокіслам 5—6 *см*$^3$ вады і добра ўзбаўтайце, затым прафільтруйце. Заўважце на якіх фільтрах ёсць асадкі (запішыце гэта ў сшыткі).

Наліце ў выпаральныя чашкі прыблізна па 2—3 *см*$^3$ фільтрата і выпарце; заўважце ў якіх выпадках застаецца асадак у выпаральных чашках (запішыце гэта ў сшыткі).

Вось вы самі азнаёміліся са знешнім выглядам некаторых вокіслаў і з іх растварымасцю ў вадзе. Зараз пазнаёмімся з уласцівасцямі іншых вокіслаў. Для гэтага я пакажу вам наступныя доследы.

Бяру пінцэтам кавалачак металічнага натрыя, кладу яго на лыжку, запальваю і апускаю ў цыліндр з кіслародам. У выніку згарання натрыя мы атрымалі белую масу—вокіс натрыя ($Na_2O$). Растворым яго ў вадзе. Для гэтага я ў цыліндр, у якім знаходзіцца вокіс натрыя, наліваю крыху вады і ўзбоўтваю. Як бачыце, вокіс натрыя ўвесь растварыўся.

А вось у гэтым цыліндры з кіслародам мы такім-жа чынам спалім кавалак серы. Што мы атрымалі ў выніку згарання серы? Мы атрымалі вокіс серы—сярністы газ. Наліваем крыху вады і ўзбоўтваем. Вокіс серы раствараецца ў вадзе.

Такім чынам мы атрымалі яшчэ два растварымыя ў вадзе вокіслы. Запішыце ўраўненні рэакцый злучэння вокіслаў натрыя і серы з вадой:



$$Na_2O + H_2O = Na_2H_2O_2 = 2NaOH;$$
$$SO_2 + H_2O = H_2SO_3.$$

Давайце паўторым і запішам усё, аб чым мы даведаліся на сёнешнім уроку ў наступную таблічку:

| №№ п/ч | Назва вокісла | Знешні выгляд | Хімічная формула | Растварымасць у вадзе |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Вокіс фосфара | белае вешчаства | $P_2O_5$ | раствараецца |
| 2 | Вокіс серы | газ без колеру | $SO_2$ | „ |
| 3 | Вокіс натрыя | белае вешчаства | $Na_2O$ | „ |
| 4 | Вокіс кальцыя | „ | $CaO$ | „ |
| 5 | Вокіс магнія | „ | $MgO$ | раствараецца часткова |
| 6 | Вокіс цынка | „ | $ZnO$ | не раствараецца |
| 7 | Вокіс медзі | чорны парашок | $CuO$ | „ |

[1] Формулы вокіслаў былі напісаны на паперках і ўстаўлены ў прабіркі з вокісламі.

Такім чынам мы даведаліся сёння, што розныя вокіслы неаднолькава раствараюцца ў вадзе; рад вокіслаў не раствараюцца ў вадзе».

## Злучэнні вокіслаў з вадой называюцца гідратамі

Заданне на дом:

1. Прачытайце наступныя старонкі падручніка (з 97 стар. да § 2).
2. Разбярыце таблічку, якую вы тут запісалі.
3. Напішыце формулу будовы (структуру) фосфарнага ангідрыда $P_2O_5$.
4. Вызначце валентнасць наступных металаў (па кіслароду):

Na, Ca і K.

5. Напішыце гідраты вокіслаў наступных элементаў—

Ca; K; Mg і P.

## Метадычныя ўказанні да ўрока

1. На канкрэтным прыкладзе данага ўрока мы імкнуліся паказаць наступнае:

а) як рыхтавацца да ўрока.

б) як павінен быць пабудаван і праведзен урок.

Добрая падрыхтоўка да ўрока з боку настаўніка ёсць неабходная прадпасылка добрага правядзення ўрока.

Рыхтуючыйся да ўрока выкладчык павінен ясна прадстаўляць сабе ўвесь ход урока.

Таму, апрача прадумвання зместа ўрока, выкладчыку неабходна саставіць дакладны план урока з дазіроўкай часу.

Маладому настаўніку цяжка бывае разлічыць правільна час, г. зн. правільна разлічыць колькі матэрыялу выдзяліць для данага ўрока з тым, каб не толькі паспець ізлажыць усё, але каб вучні цвёрда засвоілі і даны матэрыял. Вельмі-ж часта бывае так, што настаўнік перагружае ўрок матэрыялам, у выніку чаго эфектыўнасць урока значна зніжаецца.

Таму ў плане «ход урока» павінна быць устаноўлена колькі мінут адпускаецца на кожную частку ўрока (у ходзе ўрока могуць быць некаторыя адхіленні на некалькі мінут).

У прыведзеным вышэй уроку паказана дазіроўка часу. Але паўтараем, што яна не можа з'яўляцца стандартнай, бо ў кожным канкрэтным выпадку гэта будзе залежаць ад матэрыялу, тэмы, узросту вучняў (класа) і т. д. Аднак мы паказалі, што для таго, каб высветліць адно толькі пытанне—растварымасць розных вокіслаў у вадзе, і такім чынам падвесці вучняў да разумення гідратаў, патрэбен быў цэлы ўрок. Пры гэтым мы выходзілі з таго, што без добрага засваення гэтага пытання вучні ў далейшым не змогуць разумець як след пытання аб асновах, шчолачах (як растварымых у вадзе асновах) і кіслотах.

2. У раздзеле плана «Ход урока» выкладчык павінен прадумаць і ўстанавіць якімі метадамі ён правядзе даны ўрок.

На прыведзеным вышэй уроку былі ўжыты рознастайныя метады:

а) гутарка;

б) расказ з дэманстрацыяй доследаў;

в) лабараторная работа.

Разам з вызначэннем метадаў работы на даным уроку, настаўніку неабходна вызначыць і падрыхтаваць усе неабходныя прылады для абсталявання ўрока (прыборы, рэактывы, пасуду і т. д.). Зразумела, што

ўжыванне на ўроку рознастайных метадаў, правераных на практыцы, павінна быць дыферэнцыявана ў залежнасці ад:

а) тыпу ўрока,

б) матэрыялу тэмы,

в) узросту вучняў (класа) і т. д.

3. На прыкладзе данага ўрока мы імкнуліся паказаць як трэба праводзіць лабараторную работу пад непасрэдным кіраўніцтвам настаўніка. На даным уроку настаўнік лічыў магчымым даваць указанні адносна правядзення доследаў паступова: па меры выканання вучнямі аднаго доследа, ён пераходзіў да тлумачэння наступнага.

На даным уроку была звернута асаблівая ўвага на паўтарэнне і замацаванне як ужо пройдзенага так і новага матэрыялу. Гэтым самым мы стваралі сувязь паміж пройдзеным і новым матэрыялам.

Для паўтарэння і праверкі ведаў вучняў па пройдзенаму курсу настаўнікам было пастаўлена некалькі пытанняў. Вышэй мы прывялі канчатковыя, правільныя адказы вучняў (выпраўленыя па ходу адказаў настаўнікам).

Настаўніку неабходна звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на правільнасць фармулёвак адказаў вучняў. Для гэтага трэба загадзя абдумаць і сфармуляваць гэтыя адказы ў сваім канспекце ўрока (асабліва гэта неабходна зрабіць маладому настаўніку). Нават самыя адказы вучняў павінны быць загадзя абдуманы і сфармуляваны настаўнікам.

Матэрыял самога ўрока, які мы прыводзілі вышэй, быў паўторан пры састаўленні таблічкі (гл. вышэй). Тут настаўнік толькі напісаў графы таблічкі, якую ён запаўняў шляхам задавання пытанняў вучням прыкладна:

«Зараз мы запішам усё, што вучылі на ўроку ў наступную таблічку. «Які выгляд мае вокіс медзі? Як мы напішам яго формулу? Як ён раствараецца ў вадзе?» і т. д.

4. На гэтым уроку таксама паказана роля настаўніка ў кіраўніцтве запісамі вучняў у сшыткі (гэтыя запісы неабходна сістэматычна правяраць).

5. Урэшце, мы паказалі, што ўрок быў правільна пабудован:

а) устаноўлена сувязь новага матэрыялу з пройдзеным на мінулым уроку шляхам гутаркі;

б) высветлена задача данага ўрока;

в) цэнтральная частка ўрока—расказ настаўніка з дэманстрацыяй вопытаў і лабараторная работа;

г) паўтарэнне;

д) зроблены вывады ўрока;

е) дадзена заданне на дом.

Размер данага артыкула не дазваляе нам змясціць метадычнае апісанне ўсёй падтэмы «Кіслоты», таму мы змясцілі толькі ўводны ўрок.

У наступных нумарах журнала «За комуністычнае выхаванне» мы дадзім працяг метадычнай прапрацоўкі гэтай падтэмы.

---

*М. Карпачоў*

# Да пытання аб вывучэнні фальклора ў школе

На першым Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў даволі шырока было пастаўлена пытанне аб сувязі мастацкай літаратуры з фальклорам. У дакладах і спрэчках было раскрыта гістарычнае, мастацкае і грамадска-палітычнае значэнне вуснай народнай творчасці. Найвялікшы пролетарскі пісьменнік Алексей Максімавіч Горкі ў сваім заключным слове на з'ездзе совецкіх пісьменнікаў сказаў: «Паўтараю: пачатак мастацтва слова ў фальклоры. Збірайце ваш фальклор, вучыцеся на ім, апрацоўвайце яго. Ён вельмі многа дае матэрыялу і вам, і нам, паэтам і празаікам Саюза. Чым лепш мы будзем ведаць мінулае, тым лягчэй, тым больш глыбока і радасна зразумеем значэнне тварымага намі сучаснага».

Гэтыя надзвычай каштоўныя словы нашага любімага пісьменніка не павінны забываць настаўнікі, і ў асаблівасці выкладчыкі літаратуры сярэдніх школ, дзе ў праграмным матэрыяле вывучэння літаратуры павінна быць адведзена адпаведнае месца вуснай народнай творчасці. Праўда, у практыцы работы над фальклорам настаўнікі сустракаюць цэлы рад цяжкасцей, але гэтыя цяжкасці, пры адпаведнай падрыхтоўцы і зацікаўленасці фальклорам з боку выкладчыкаў літаратуры, могуць быць знішчаны.

Мне хочацца падзяліцца сваім, хоць і небагатым, вопытам работы над вуснай народнай творчасцю. У пачатку гэтага навучальнага года, састаўляючы праграмы па літаратуры для 1-га курса педтэхнікума (праграм Наркомасветы па беларускай літаратуры для педтэхнікумаў яшчэ і зараз няма), я рашыў унесці першай тэмай—вывучэнне вуснай народнай творчасці. Асноўным вучэбным матэрыялам па гэтай тэме я скарыстаў зборнік Васілёнка «Пад панскім бізуном», які меўся ў бібліятэцы тэхнікума ў колькасці 15-ці экземпляраў (хрэстаматыі Кучара для 8-га года навучання, у якой ёсць даволі добра апрацаваны фальклорны матэрыял з уступным артыкулам праф. Піотуховіча, яшчэ не было). З гэтага зборніка былі выкарыстаны для вывучэння казкі і песні прыгонных сялян. Пасля работы над тэкстам казак і песень, для большага ўяўлення соцыяльнай прыроды і сутнасці фальклора, студэнтамі быў распрацован уступны артыкул Васілёнка ў гэтым зборніку і матэрыялы з дакладу і заключнай прамовы М. Горкага аб фальклоры.

Безумоўна, абмежавацца пры вывучэнні вуснай народнай творчасці песнямі і казкамі прыгонных сялян будзе зусім недастаткова. Таму я рашыў даць студэнтам разуменне аб паслярэволюцыйным фальклоры, як яркім паказчыку культурнага росту працоўных мас, і паказаць якое віднае месца займае фальклор у быту, рабоце і класавай барацьбе нашых калгаснікаў, у выкарчоўванні рэштак капіталістычных класаў у вёсцы, і такім чынам даць уяўленне аб тым, якое вялікае ідэалагічнае ўздзейнічанне аказвае фальклор на свядомасць працоўных.

Пад рукамі ў мяне было некалькі калгасных частушак, якія распяваюцца ў калгасах Рэчыцкага раёна. Гэтыя частушкі мною былі зачытаны

студэнтам, пасля чаго апошнія праявілі вялікае жаданне расказаць цэлы рад частушак і іншых відаў вуснай народнай творчасці, якія яны ведаюць. Гэты інтарэс і зацікаўленасць з боку студэнтаў сучасным калгасным фальклорам былі скарыстаны для збору і запісу частушак і іншых відаў вуснай творчасці. Так, праз некаторы час у нашым распараджэнні ўжо мелася больш трох дзесяткаў частушак Нахаўскага сельсовета Рэчыцкага раёна, сабраных і запісаных студэнтамі.

Такім чынам тэмы вуснай народнай творчасці мы закончылі вывучэннем сучаснага калгаснага фальклора нашага раёна. Гэтая работа дала вялікі штуршок да разгортвання шырокай работы сярод студэнтаў тэхнікума па вывучэнню і збіранню паслярэвалюцыйнага фальклора.

Зараз работу над фальклорам вядзе літаратурны гурток, пры якім ёсць фальклорная секцыя. Фальклорная секцыя ўжо мае ў сваім распараджэнні цэлы рад калгасных частушак Азершчынскага і Падалескага сельсоветаў Рэчыцкага раёна.

Сабраная вусная народная творчасць вывучаецца і апрацоўваецца літаратурным гуртком, які мяркуе выдаць свой зборнік фальклора, што з'явіцца каштоўным вучэбным матэрыялам для студэнтаў. Адначасова з гэтым сабраны фальклор мяркуецца адаслаць Акадэміі Навук БССР.

Аб тым, што матэрыялы калгаснага фальклора прадстаўляюць пазнавальную і выхаваўчую каштоўнасць, можна ўпэўніцца на такіх частушках, запісаных студэнтамі:

На гары стаіць сасна,
Пад сасной—бяроза.
Нідзе вёскі не знайсці,
Дзе няма калхоза.

На узгорках і далінах
Параслі бярозы.
Зацвілі, як тыя кветкі,
Нашыя калхозы.

Упэўненасць у моц і перамогу соцыялістычнай сельскай гаспадаркі сцвярджаюць такія частушкі:

Па-над рэчкай я хадзіла,
Там халодная вада,
Як калгас у нас з'явіўся,
Кулаку прышла бяда.

Змяненне тактыкі класавага ворага ў барацьбе з калгасным будаўніцтвам, яго дзейнічанне «ціхай сапай», выкрываюць частушкі:

Пагналі, пагналі
Вы калгаснае насенне,—
З кулакоў ў калгасе „Воля"
Складзена праўленне.

Вядучая роля калгасаў у вёсцы, іх аўтарытэт, як соцыялістычнай формы гаспадаркі, апяваюцца ў частушцы:

Не кукуй, кукушка, ў полі,
А лятай на лозы!
Нам раўняцца зараз трэба
Болей на калхозы.

Апяваецца і роля машынізацыі ў буйнай калектывізаванай сельскай гаспадарцы і ўзняцце ўраджайнасці дзякуючы ёй:

Раней сохамі аралі
І так мала жыта жалі;
Сталі-ж трактарам араць,
Сталі многа жыта жаць.

Або:

Не пазнаць старыя нівы,
Не пазнаць палетак.
Ураджайнасць паднялі
Планы пяцілетак.

І яшчэ:

Дзве кукушачкі на дрэве,
Яны весела пяюць.
Усе нашыя калхозы
Хлеб дзяржаве прадаюць.

Новы быт у вёсцы, а разам з ім і новыя тыпы жанчын-сялянак апяваюцца ў такіх частушках:

Баба сварыцца на дзеда
Кожны дзень і кожны год:
„Як ў калгасе жыць не хочаш,—
Скора дам табе развод".

Такім чынам, вывучаючы старую дарэвалюцыйную вусную народную творчасць у школе, настаўнікі літаратуры сярэдніх школ, і нават пачатковых школ, а ў асаблівасці школ вясковых, павінны скарыстаць багаты паслярэвалюцыйны фальклор нашай калгаснай вёскі і соцыялістычнага горада, наладзіўшы справу збору гэтага фальклора, што прынясе вялікую карысць вучням. Мне здаецца, што на ўрок па вуснай народнай творчасці ў школу трэба прыцягнуць і апавядальніка казак, песень і інш., якія ў нашых вёсках ёсць. Адначасова з гэтым настаўнік, безумоўна, павінен арганізаваць вучняў на збор паслярэвалюцыйнага фальклора, на абагульненне яго. У пачатковых школах, на мой погляд, вельмі цікавым і каштоўным мерапрыемствам павінна быць уведзена мастацкае расказванне настаўнікам казак з часоў прыгону і адначасова практыкаванне расказвання казак вучнямі. Гэтую работу, апрача ўрока мовы, трэба праводзіць у гадзіны пазашкольнай работы, як адзін з прыёмаў выхаваўчай работы ў школе.

Работа па вывучэнню і асваенню старога дарэвалюцыйнага фальклора працоўных і фальклора паслярэвалюцыйнага нашымі школамі павінна быць скарыстана для навучальна-выхаваўчых мэт школы. Бываюць выпадкі, калі ў фальклорных частушках апавядаюцца розныя кулацкія, антысовецкія моманты. Гэта абавязвае настаўніка мовы і літаратуры праявуляць неабходную класавую пільнасць, каб своечасова і правільна ўскрыць класава-варожы характар гэтых частушак.

# РЭЦЭНЗІІ

*І. Драздоў.* **Ваенная хімія. Выдавецтва Беларускай ваеннай акругі. Менск, 1934 г. Стар. 68, ц. 65 кап., 3.000 экз. Бібліятэка юнага прыхільніка ТСА АСОАВІЯХІМА**

Крывавы фашызм узмоцнена рыхтуецца да новай крывавай бойні ў барацьбе за новы перадзел свету. Версальскі дагавор яшчэ больш паглыбіў супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі; сучасны эканамічны крызіс, які руйнуе капіталістычную гаспадарку на працягу звыш 5 год, канчаткова паставіў імперыялістычны свет на грані новай сусветнай вайны. Аб гэтым яскрава кажуць—нечуваны рост узбраення, велізарнейшае павелічэнне сухапутных армій, баявых адзінак морскага і шалёны рост паветранага флота.

Разам з ростам састава армій нечувана расце і іх тэхнічнае ўзбраенне. З тэхнічных сродкаў барацьбы не апошняе месца займае хімічная вайна. Ужо канец сусветнай вайны 1914—1918 гг. можна смела назваць хімічнай вайной. І сапраўды: ужо ў гэтую вайну прымянялася да 40 розных атрутных вяшчэстваў. Можна з вялікай упэўненасцю сказаць, што будучая вайна будзе ў большай ступені, чым сусветная 1914—1918 гг. хімічнай вайной.

Небяспека будучай вайны заключаецца не толькі ў тым, што яна будзе паражаць баявымі хімічнымі сродкамі арміі, але больш у тым, што яна пагражае гібеллю мірнага насельніцтва—глыбокага тылу кожнай краіны.

Праціўнік будзе імкнуцца пры дапамозе паветранага флота знішчыць буйнейшыя эканамічныя і палітычныя цэнтры тылу варожай краіны і тым самым дэзарганізаваць снабжэнне і кіраўніцтва арміі. Гэта лёгка можа зрабіць паветраны флот сотнямі і тысячамі самалётаў, залятаючы ў тыл на 500 і больш кілометраў. Сіла-ж паветраных эскадрылляў будзе заключацца ў тых стойкіх атрутных вяшчэствах, якія будуць знаходзіцца ў аэра-хімічных бомбах.

Можна сабе лёгка ўявіць, што пагражае насельніцтву тых пунктаў, якія маюць вялікае палітычнае, эканамічнае або чыста ваеннае значэнне, калі на іх наляціць некалькі бамбардыровачных эскадрылляў самалётаў. Адсюль становіцца зразумелым, што каб не паддацца «газавай паніцы», насельніцтва павінна ведаць, як прымяняць сродкі хімічнай абароны, як захоўваць «газавую дысцыпліну».

Будучая вайна не будзе ведаць межаў паміж фронтам і тылам. Наадварот, сродкі паражэння ворага, асабліва хімічныя, будуць накіраваны галоўным чынам на тыл праціўніка. Вось чаму справа хімічнай абароны краіны ў цяперашні час, побач з паветранай, становіцца задачай асаблівай важнасці, у вырашэнне якой павінна быць уцягнута ўсё працоўнае насельніцтва Савецкага саюза. Навучыцца абараняць сябе ад атручвання АВ—справа кожнага рабочага, работніцы, калгасніка, піонера, вучня і т. д.

Што павінен ведаць піонер, вучань, якраз і гаворыць брашура тав. Драздова «Ваенная хімія». Аўтар надзвычай зразумелай і цікавай мовай, пачаўшы з гісторыі хімічнай вайны, знаёміць на працягу ўсёй кнігі

з агульнымі хімічнымі працэсамі, з хімічным злучэннем вяшчэстваў, з іх разлажэннем і рэакцыямі абмену. Даючы агульнае паняцце аб агнястрэльнай зброі, аўтар паказвае, чым адрозніваецца яна ад хімічнай зброі, паказвае, як распазнаць АВ і як яны паражаюць арганізм чалавека, жывёлы і інш.

Добра паказаны сродкі проціхімічнай абароны: процігазавая ахоўная вопратка, прыстасаванне звычайнага пакоя пад газасховішча, знаёмства з дэгазацыяй. Вельмі вялікую карысць дадуць пытанні, якія даюцца для паверкі і засваення амаль кожнай тэмы. Удала падабраны і малюнкі.

Адначасова аўтар знаёміць з тым, якую вялікую карысць прыносіць хімія і для патрэб мірнага часу: пры вырабе фарб, паперы, шкла, запалак, штучнага шоўку, у барацьбе са шкоднікамі-грызунамі і насякомымі, са шкоднікамі садоў, агародаў і т. д.

Кніжка з'яўляецца даволі каштоўным укладам у абаронную дзіцячую літаратуру. Яна павінна быць у кожнай школьнай бібліятэцы, у кожнай хаце-чытальні. Яна прынясе вялікую карысць не толькі піонеру, вучню, але і шырокім калгасным масам.

*Г. Вінаградаў*

**II. Гр. ОС. Страляць па-варашылаўску. Пераклад з рускай мовы. Выдавецтва Беларускай ваеннай акругі. Менск 1934 г. Стар. 52, ц. 25 кап., 3 000 экз. (Бібліятэка юнага прыхільніка ТСА АСОАВІЯХІМА)**

Стралковы спорт з кожным годам становіцца ў нас усё больш масавым відам спорта. Рэдка можна ў цяперашні час сустрэць школу, піонерарганізацыю, юных прыхільнікаў Асоавіяхіма, якія не ставілі-б перад сабой задачу авалодаць майстэрствам стралковай справы.

Не гледзячы на гэта, у нас на кніжным рынку амаль зусім няма метадычнай літаратуры па стралковаму спорту. Што датычыцца дзіцячай літаратуры па гэтаму пытанню, то яе зусім няма, а попыт на яе надзвычай вялікі.

Аўтар данай брашуры ставіць сваёй задачай дапамагчы ў стралковай справе нашым юным любіцелям стралковага спорта. Ці адказвае даная брашура тым запатрабаванням, якія прад'яўляюцца да яе? Трэба сказаць, што не. Брашура мае вельмі агульны характар. Яна не можа служыць дапаможнікам па стралковай справе.

Аўтар пачынае з розных відаў гульняў: мятання мяча, дроціка, кап'я, стральбы з лука, арбалета (удасканалены лук). Далей брашура знаёміць з падрыхтоўчымі практыкаваннямі да стральбы з агнястрэльнай зброі. Пасля гэтага аўтар пераходзіць да апісання стральбы з дробнакалібернай вінтоўкі. Коратка знаёміць з тэорыяй стральбы, з правіламі абыходжання са стралковай зброяй, з доглядам за ёю, з тэхнікай стральбы і т. д. Але ўсе гэтыя каштоўныя ўказанні даны не так, як трэба дзецям. Брашура павінна навучыць як карыстацца лукам, арбалетам, вінтоўкай, як праводзіць заняткі, якія патрэбны мішэні і для якой задачы стральбы, як іх устанаўліваюць, на якой адлегласці, які ўплыў робіць на выстрал надвор'е, як прымацаваць рэмень і т. д. Амаль нічога гэтага не дае даная брашура. Адным словам у ёй няма таго, што мы называем методыкай, праграмнымі ўстаноўкамі ў стралковай справе, без якіх нельга абыйсціся ў рабоце з юнымі стралкамі.

